ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 2 (2300) 14 студзеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## СВАЙМУ НАРОДУ ПРЫСЯГНУЛІ



**31 снежня 1992 года назаўжды ўвойдзе ў гісторыю нашай дзяржавы. У гэты дзень беларуская армія прымала прысягу. На ўрачыстасці ў воінскія падраздзяленні прыехалі кіраўнікі ўрада, дэпутаты, вядомыя ў рэспубліцы людзі.**

**У дзесяць гадзін раніцы ў актавай зале Міністэрства абароны перад цырымоніяй прыняцця прысягі з уступным словам выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета і Старшыня Савета абароны Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч. Ён адзначыў, што на нашай зямлі гэты рытуал адбываецца не ўпершыню. Але раней вайсковы люд прысягаў розным уладарам: хто князю, хто каралю, хто імператару... І толькі цяпер, толькі сёння грамадзяне прыносяць клятву вернасці менавіта свайму народу.**

**Ва ўрачыстай абстаноўцы, пры вялікай колькасці гасцей першым прыняў прысягу міністр абароны Павел Казлоўскі, за ім генералы, афіцэры, прапаршчыкі кіруючага саставу Міністэрства абароны.**

**Пасля заканчэння афіцыйнай часткі ў актавай зале адбыўся канцэрт. Упершыню прагучала на ім песня "Пагоня" на словы М. Багдановіча. Армейскім артыстам акампаніраваў кампазітар, аўтар музыкі Ігар Лучанок.**

**Цёпла прымалі слухачы і выступленне ансамбля "Сябры" на чале з салістам Анатолем Ярмоленкам.**

**Пасля гэтага журналісты скарысталі добрую магчымасць пагутарыць і з тымі, хто прыняў прысягу, і з тымі, хто прысутнічаў на цырымоніі.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

## СЛОНІМСКАЕ МЕЦЭНАЦТВА МІХАЛА КАЗІМІРА АГІНСКАГА

**МІХАЛ** Казімір Агінскі (1728—1800), пра музычнае мецэнацтва якога 30 гадоў назад мной апублікавана кніга, што, на маю радасць, павінна выйсці з друку па-беларуску, паходзіў з "тутэйшага" роду — як гэта казаў пра сябе нават перадапошні нашчадак нясвіжскага маярату князь Альбрэхт Радзівіл — з княжацкага роду, што значыцца, як і Пузыны з Казельска, гербам Агінец. Не буду тут займацца генеалагічна-геральдычнымі разважаннямі. Адзначу толькі, што, на маю думку, Агінскія не былі ні Гедымінавічамі, ні Рурыкавічамі, але толькі нашчадкамі мясцовых удзельных валадароў. Ва ўсякім выпадку, застаецца фактам, што з канца XVI стагоддзя гэты княжацкі род адыграў значную і ўсё ўзрастаючую ролю на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага. Выгаслі ж Агінскія толькі на пачатку бягучага стагоддзя.

Міхал Казімір быў сынам рана памёршага троцкага ваяводы Тадэвуша Юзафа і Ганны з князёў Вішнявецкіх. Яго бабкай па бацьку была Элеанора з Войнаў, віленская ваяводзіна, а па маці — Кацярына Дольская, першая жонка вялікага гетмана літоўскага Міхала Сервацыя Вішнявецкага. Значыць, паходзіў ён з "рускіх" родаў як па мужчынскай, так і па жаночай лініі. З тых жа вялікіх літоўска-беларускіх родаў была і яго жонка Аляксандра Чартарыская, дачка князя-канцлера Міхала, Гедымінавіча. Гэты шлюб, зрэшты, не быў вельмі шчаслівы. Будучая жонка гетмана мела рэзідэнцыю ў Седльцах, дзе таксама стварыла ўласны мастацкі асяродак. А Міхал Казімір рабіў тую ж справу ў Слоніме. Былі яны бяздзетнымі.

Некалькі слоў пра біяграфію нашага героя. Старанна выхаваны і адукаваны пад наглядам афіцыйнага апекуна, князя-канцлера Чартарыскага, ён меў выразныя мастацкія схільнасці: быў дасканалым жывапісцам-аматарам і асабліва музыкам. Іграў на арфе і скрыпцы, захапляючы версальскі двор і парыжскія салоны — уключна з Дзідро і энцыклапедыстамі. Аднак сям'я Чартарыскіх ускладала на яго іншыя надзеі: палітычную і вайсковую кар'еру. Першыя годнасці прыйшлі да яго хутка: у 1744 годзе — падчашы ВКЛ, праз чатыры гады — пісар польны літоўскі, а заадно — генарал-маёр літоўскіх войскаў. Пасля — замежныя ваяжы, турботы пра польскую карону — праз ложак "імператрыцы" і наперакор Станіславу Панятоўскаму, каротчасовае валоданне годнасцю віленскага ваяводы (1765). Нарэшце, у 1768 годзе — вялікая літоўская булава, якую ён склаў ці, дакладней, прадаў у 1793 годзе. Была таксама і Барская канфедэрацыя, непрацяглыя сутычкі з расійскімі войскамі: перамога пад Бердзічавам і поўнае паражэнне ў бітве пад Стваловічамі, у час якой Агінскі, кажуць, склаў оперу. Зноў — замежныя падарожжы і палітычныя інтрыгі, у якіх праз усё жыццё ён ускладваў надзеі на берлінскі двор. Нарэшце, вяртанне ў Польшчу на пераломе 1774 і 1775 гадоў. Будуць яшчэ выезды за мяжу ў 1782—1786, 1790—1791 і ў 1794 гадах. З "фаміліяй" Чартарыскіх да таго часу ён даўно парваў сувязі.

Агінскі быў тыповым прадстаўніком арыстакратыі, якая закончыла сваё існаванне разам з Рэчай Паспалітай. Напышлівы, засяроджаны на сабе, палітычна наіўны, ублытаны ў масонства, незразумелыя сёння афёры — як і ў княжны Тараканавай, Каліёстра ці Дагрумавай, гетманам ён мог быць, як піша Жылінскі, толькі ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, дзе ўсё, асабліва

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



**Услед за каталіцкім святам Нараджэння Хрыстовага і праваслаўныя вернікі на Беларусі цешылі свае сэрцы малітвамі і надзеяй, што Збаўца людства аблягчыць наш цяжкі лёс і сагрэе нашы душы сваёй міласэрнасцю.**

**Адкідаючы ідэалагічны стэрэатып "у советских собственная гордость", мы становімся, як і ўсе, паступова адтайваюць нашы сэрцы і яснее розум, мы вяртаемся да тых духоўных каштоўнасцей, якія жывяць чалавецтва і якія былі гвалтоўна адабраны ў нашага народа. Гісторыя сведчыць, што да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 года Дзень Хрыстовага Нараджэння быў "маці святаў". Сёння, пасля дзесяцігоддзяў атэістычнага ўціску, народ наш зноў вольна і свабодна святкуе Нараджэнне Божае.**

**Сёлета ўрачыстыя набажэнствы адбыліся ва ўсіх праваслаўных прыходах Беларусі. Але галоўная ўрачыстасць, вядома ж, была ў сталіцы, дзе ў Мінскім кафедральным саборы ў ціхую ноч на 7 студзеня боскую літургію адслужыў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт.**

**НА ЗДЫМКУ: урачыстае набажэнства ў Мінскім кафедральным саборы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ, ФАКТЫ

*РЭЙТЫНГ ПАПУЛЯРНАСЦІ*

## ПАЛІТЫК ГОДА

**На працягу 1992 года беларуская служба "Грамадская думка" правяла сем апытанняў насельніцтва (студзень, люты, сакавік, чэрвень, ліпень, кастрычнік, снежань), у ходзе якіх вызначаўся рэйтынг палітычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь. У кожным з апытанняў на першае месца нязменна выходзіў С.Шушкевіч, сярэднегадавы рэйтынг якога склаў 33,6 працэнта. Найбольш высокая ступень падтрымкі насельніцтва зафіксавана ў студзені (52,0 працэнта) і сакавіку (47,1 працэнта), найбольш нізкая — у кастрычніку (15,3 працэнта).**

**Такім чынам, найбольш папулярным палітыкам года, традыцыйна вызначаемым беларускай службай "Грамадская думка", стаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіч.**

**Другое месца заняў лідэр парламенцкай апазіцыі, старшыня Сойма БНФ Зянон Пазьняк. Ён набраў 6,6 працэнта. У Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча — 4,7 працэнта галасоў апытаных, ён па папулярнасці на трэцяй прыступцы.**

*"Раней літаратура была патрэбна кіруючай партыі і, як вядома, цанілася ёю ў меру адданасці літаратурных майстроў справе камунізму. Некаторыя з іх, добра засвоіўшы тое правіла, зрабілі неблагую кар'еру, нярэдка сямействам падняўшыся "з гразі ў князі". Вядома, чыста культурнае значэнне іхняе творчасці нулявое. Але ў грамадстве культывавалася "палітыка згоды" (модная не толькі зараз), калі ніхто не адважваўся сказаць, што кароль голы. Афіцыйна прамаўлялі адваротнае. Пры жыцці выдавалі-перавыдавалі, выбіралі, куды толькі было магчыма, узнагароджвалі ўсімі шматлікімі рэгаліямі Саюза. Пасля смерці ўшаноўвалі мемарыяльнымі музеямі, назвамі сталічных вуліц, бронзавымі дошкамі на вуглах прэстыжных "дваранскіх гнёздаў", дзе жылі класікі. І тут жа забываліся на іхнія імёны, не кажучы ўжо пра іхнюю творчасць, якую наменклатура ніколі не чытала, лічачы, што яе павінны чытаць народ — яна ж задавальнялася Чэхавым. Тым часам на подступах да новых узнагарод стаялі новыя "класікі", што прагнулі запозненага ўсенароднага прызнання. То быў гадамі адладжаны, безадмоўны канвеер. Цяпер жа ўсё перамянілася. Ва ўмовах матэрыяльнай галечы куды як зменшылася патрэба нават у сапраўды духоўным харчы, не кажучы пра эрзацы, стаў надта злабадзённы харч матэрыяльны. Калі ж мець на ўвазе, што і ў тым грамадстве, да якога мы раптам памкнуліся, духоўнасць, культура, а з імі і літаратура не дужа шмат значаць, дык няцяжка прадказаць, што напрыканцы XX стагоддзя татальная камерцыялізацыя, здаецца, даканае існаванне традыцыйнай культуры".*

*(З інтэрв'ю Васіля БЫКАВА газеце "Звязда").*

*НАДАННЕ ВОІНСКІХ ЗВАННЯЎ*

## ГЕНЕРАЛЫ БЕЛАРУСІ

**Напярэдадні Новага года прысвоена чарговае воінскае званне генерал-маёр групе старшых афіцэраў.**

**Сярод іх начальнік тылу Міністэрства абароны Беларусі Аляксандр Хрыстафораў, намеснік старшыні КДБ рэспублікі Аляксандр Кулеш, намеснік старшыні КДБ, начальнік Упраўлення ваеннай контрразведкі Валерый Кез, начальнік тылу пагранвойск Вячаслаў Казлоў.**

**Маладых генералаў сардэчна павіншаваў прэм'ер-міністр рэспублікі Вячаслаў Кебіч. Ён пажадаў ім прымяніць усе свае веды і вопыт для ўмацавання асноў суверэнітэту Беларусі, абароны інтарэсаў яе народа.**

*СУПРАЦЬ ПАРНАГРАФІІ*

## ДАДАТКОВЫЯ МЕРЫ

**Самымі катэгарычнымі і бескампраміснымі выразамі — "забараніць на тэрыторыі рэспублікі", "лічыць недапушчальнай", "узмацніць барацьбу", "павысіць кантроль" — напоўнена пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб дадатковых мерах па спыненню на тэрыторыі рэспублікі прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці". Яна забараняе стварэнне, распаўсюжванне, дэманстрацыю і рэкламу кіна-, тэле- і відэафільмаў, выпуск друкаваных выданняў, якія прапагандуюць парнаграфію, культ насілля і жорсткасць.**

**Каб абараніць высокую маральнасць і добрыя традыцыі беларускага грамадства, Савет Міністраў патрабуе ад падначаленых яму органаў весці рашучую барацьбу з прапагандай разбэшчанасці, распусты і гвалту. Пры Міністэрстве культуры ствараецца Дзяржаўны рэгістр, які павінен адсейваць усё шкоднае і непатрэбнае пры рэгістрацыі кіна- і відэапрадукцыі.**

*ЭПІДЭМІЯ*

## УСІМ НА ПРЫВІЎКУ!

**Эпідэмія дыфтэрыі ў Беларусі набывае ўсё больш пагражальны характар: на сённяшні дзень у рэспубліцы хварэюць ужо дзесяткі чалавек. Не намнога менш выяўлена бактэрыяносьбітаў гэтага небяспечнага захворвання. Усё гэта прымусіла галоўнага санітарнага ўрача Беларусі выдаць надзвычайную пастанову па прафілактыцы дыфтэрыі і барацьбе з яе эпідэміяй. Згодна з пастановай, органы аховы здароўя абавязаны да 31 студзеня будучага года правесці вакцынацыю ўсіх людзей, якія ўваходзяць у групу рызыкі: работнікаў дзіцячых дашкольных устаноў, настаўнікаў школ, студэнтаў, работнікаў агульнага харчавання і сферы абслугоўвання, асоб, якія жывуць у інтэрнатах. А да лета мяркуецца правесці імунізацыю ўсяго дарослага насельніцтва рэспублікі. Пастановай таксама прадпісана праводзіць абавязковае бактэрыялагічнае абследаванне ўсіх хворых на ангіну.**

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*

## ДЫЯГНАЗ... ЗА ТРЫ ХВІЛІНЫ

**Вырашыўшы ўсур'ёз заняцца сваім здароўем, мы ўжо загадзя гатовы да бясконцых чэргаў у паліклініцы, ды яшчэ не да аднаго спецыяліста, доўгага абследавання, магчыма, нават у бальніцы. А ці можна вызначыць стан здароўя чалавека ўсяго за некалькі хвілін? Аказваецца, можна.**

**Для гэтай мэты беларускія вучоныя-медыкі распрацавалі спецыяльны экспрэс-кардыёграф, работа якога была прадэманстравана ў Мінскім гарадскім цэнтры здароўя. Па сваёй канструкцыі ён не такі ўжо і складаны. Звычайны камп'ютэр, да якога падключаны спецыяльны модуль. Да запясцяў пацыента падключаюць адчувальныя датчыкі, і праз некалькі хвілін на экране з'яўляецца кардыяграма і адпаведны дыягназ. Затым усё гэта распячатваецца, прычым прыбор вызначае не толькі дыягназ, але і дае канкрэтныя рэкамендацыі. Такіх экспрэс-кардыёграфаў у рэспубліцы пакуль што лічаныя адзінкі — доследныя ўзоры. Іх выпрацавала навукова-вытворчае прадпрыемства "АСУ-прыбор".**

*ПРА ШТО МАЎЧАЛІ*

## НЕВЯДОМЫЯ ВОЙНЫ

**Да гэтага часу грамадскасць краін былога СССР ведае добра, бадай, толькі адну вайну, дзе нашы афіцэры і салдаты выконвалі так званы "інтэрнацыянальны абавязак" — Афганістан. А былі ж яшчэ Карэя, В'етнам, Ангола, Егіпет, Алжыр, Лаос, Мазамбік, Йемен, Сірыя, Бірма... І там за імперскія інтарэсы Маскоўскага Крамля, за сусветную рэвалюцыю гінулі савецкія людзі, у тым ліку і беларусы.**

**Пакуль што ў нас былі арганізацыі ветэранаў афганскай вайны. І вось у Гродне створана грамадская арганізацыя пад назвай "Клуб ветэранаў "непрызнаных войнаў". Яна якраз і аб'ядноўвае тых, хто прымаў удзел у вышэйзгаданых савецкіх войнах, пра якія дагэтуль сарамліва маўчаць і нашы палітыкі, і нашы гісторыкі.**

**Чаго баяцца? На Захадзе ж даўно ўсё вядома.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

* Назіраецца тэндэнцыя скарачэння колькасці грамадзян Беларусі, якія хацелі б назаўсёды развітацца з ёю. У 1991 годзе з рэспублікі эміграваліа 25 тысяч чалавек, у 1992 – толькі 18 тысяч.

* Урад Францыі выдзеліў Беларусі кароткатэрміновы крэдыт – 70 мільёнаў франкаў на аперацыі, якія будуць ажыццяўляцца Знешэканомбанкам, Белпрамбудбанкам і Прыярбанкам.

* Дэпутаты мясцовых Саветаў, эканамісты, дзелавыя людзі, дзеячы навукі і культуры, што ўваходзяць у партыі і рухі некамуністычнай скіраванасці, утварылі Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі.

* Грамадзянін Польшчы і Канады, беларус па паходжанню, граф Аляксандр Прушынскі, які апошнім часам наязджае ў Мінск, зрабіў сенсацыйную заяву: ён збіраецца выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

* Падаражэлі і сталі непамернай раскошай міжнародныя тэлефонныя размовы. Цяпер адна мінута тэлефоннай сувязі Мінска з Тэль-Авівам каштуе 290 рублёў, пазваніць у Польшчу ці Германію – 145 рублёў, Аўстралія і Новая Зеландыя абыдуцца ў 335 рублёў за мінуту. Нават блізкае зарубежжа – Літва ці Латвія становіцца недаступным: размова з Вільняй, напрыклад, каштуе 70 рублёў за мінуту.

* У Мінскім кафедральным саборы ўпершыню на беларускай мове праведзена брацкая споведзь. Спавядаў клірык сабора айцец Дзмітрый (Башко). Ён і зрабіў пераклад.

* Не зможа лятаць самалётамі ў новым годзе сярэднезаможны беларус. Да Гродна з Мінска білет каштуе 870 рублёў, да Гомеля – 900, да Віцебска – 765. Гэта самыя танныя рэйсы. А самыя дарагія – Мінск – Уладзівасток (22 500 рублёў), Мінск – Хабараўск (16 900 рублёў).

* На аўкцыёне ў Гродне прададзена 8 кватэр. Двухпакаёвыя абышліся іх уладальнікам па 1,5 мільёна рублёў, трохпакаёвая каштавала 1,7 мільёна рублёў.

* На Гомельшчыне з'явіліся больш за 600 бежанцаў, якія ратаваліся ад братазабойчай вайны ў розных "гарачых кропках" былога СССР. Яны згодны пасяліцца ў Чачэрскім, Нараўлянскім, Веткаўскім і іншых раёнах з павышанай радыяцыяй.

*КАМУ ПАЛЁГКА?*

## МАНАПОЛЬНАЕ ПРАВА

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб прадастаўленні шэрагу льгот Саюзу Моладзі Беларусі (былому камсамолу). У прыватнасці, мяркуецца першапачатковы разгляд усіх праграм, распрацаваных СМБ, а таксама іх ільготнае фінансаванне. Міністэрству замежных спраў прадпісана ў першую чаргу садзейнічаць афармленню выязных віз у замежныя краіны. Згодна с пастановай, Саюз Моладзі з'яўляецца прыярытэтнай арганізацыяй у галіне міжнароднага абмену і турызму. Прадстаўнікі некаторых маладзёжных арганізацый выказваюць сваю незадаволенасць дакументам, таму што прадастаўленне льгот толькі адной арганізацыі азначае вяртанне ёй манапольных правоў.**

*НОВАЯ ПАЛІКЛІНІКА*





**Напярэдадні новага года для рабочых і служачых Мінскага трактарнага завода ўступіла ў строй новая паліклініка, дзе штодзённа змогуць аказваць кваліфікаваную дапамогу 1 500 пацыентам. Па аснашчэнню сучасным лячэбным і дыягнастычным абсталяваннем гэта адна з лепшых медыцынскіх устаноў рэспублікі. Толькі на набыццё розных прыбораў і ўстановак прадпрыемства затраціла шэсць мільёнаў долараў. Шырокі дыяпазон даследаванняў дазволіць намнога палепшыць дыягностыку, што, як вядома, палавіна поспеху ў барацьбе з хваробамі.**

**У новай медустанове мяркуецца таксама шырока выкарыстоўваць і нетрадыцыйныя метады лячэння. Упершыню ўведзена тут пасада клінічнага фармаколага, які стане ажыццяўляць кантроль за назначэннямі і дапамагаць урачу ў падборы неабходных медыкаментозных сродкаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: новая паліклініка МТЗ; урач-лабарант Алена БАГАЧОВА.**

## С. ШУШКЕВІЧ: "НЕБЫВАЛЫ ДЗЕНЬ НА БЕЛАРУСІ"

# СВАЙМУ НАРОДУ ПРЫСЯГНУЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Гутарка ішла ў асноўным вакол стварэмага ў рэспубліцы войска. Гэты этап, як адзначыў міністр абароны П. Казлоўскі, яшчэ не закончыўся, яшчэ шмат чаго трэба зрабіць. Напрыклад, у час прыняцця прысягі паўсюль былі вывешаны нацыянальныя флагі, герб "Пагоня". Але вайскоўцы пакуль не маюць уласнай формы.

Якой яна будзе? За аснову бяруцца гістарычныя аспекты, традыцыі свайго, нацыянальнага, хаця і ўлічваецца атрыбутыка многіх замежных армій.

Шмат пытанняў было зададзена міністру абароны наконт спецыфікі беларускага войска, яго баяздольнасці, ліквідацыі некаторых відаў узбраенняў.

— Наша армія будзе чыста абарончай, — падкрэсліў міністр, — таму і па сваёй колькасці, і па ўзбраенню мы збіраемся прытрымлівацца разумных прапорцый. У пытанні разбраення мы строга выконваем Пагадненне 1990 года, падпісанае ў Парыжы.

Так, раней тэрміну приступілі да ліквідацыі некалі грознай баявой тэхнікі. У прысутнасці замежных экспертаў пусцілі пад прэс, а больш дакладна — разрэзалі на метал першыя машыны пяхоты (БМП-1).

Разбраенне будзе садзейнічаць змяншэнню напружанасці ў Еўропе. Тут накоплена столькі боезапасаў, што яны нават адмоўна ўздзейнічаюць на экалогію.

Да таго ж ліквідацыя ўзбраенняў дасць магчымасць эканоміць каштоўны метал, які можна скарыстаць у мірных мэтах, баявыя машыны будуць выкарыстаны ў народнай гаспадарцы.

... У гэты дзень я сустрэўся з сям'ёй Макарэвічаў з-пад Смалявіч. Малодшы, Васіль, цяпер служыць пад Мінскам. Бацька, Фёдар Сцяпанавіч, і дзед, Сцяпан Мікалаевіч, прыязджалі да сына і ўнука на прынясце прысягі з вялікай колькасцю ўзнагарод на грудзях.

Адкуль у Сцяпана Мікалаевіча ўзнагароды — здагадацца было няцяжка: салдат Вялікай Айчыннай. А адкуль яны ў Фёдара Сцяпанавіча?

З такога пытання і пачалася наша гутарка. Макарэвіч-сярэдні коратка расказаў пра ўсіх:

— Наша сям'я па традыцыі ваенная: не паспее адзін адслужыць, ідзе другі ў войска. Бацька, ці як мы яго клічам, дзед, прайшоў з першага да апошняга дня вайну з фашысцкай Германіяй ды яшчэ і на японскую трапіў. Некалькі разоў быў паранены. Лічыце, што па разу на кожную ўзнагароду.

Хапіла і на маю долю выпрабаванняў пры "выкананні інтэрнацыянальнага абавязку". У час дэсантавання зламаў нагу...

Я пацікавіўся ў Васіля, што адчувае ён сёння, калі прыняў прысягу, як ставіцца да службы.

— Служыць у пайшоў па сваёй ахвоце, — адказаў малады воін. — Рады, што падтрымаў традыцыю роду Макарэвічаў. Аднаго хачу: каб да канца службы быў на радзіме, у Беларусі. Прымаў прысягу з гонарам, з нейкай нават радасцю, быццам бы падрос, пасталеў. Ніколі не здраджу гэтай клятве. Ды і як можна здрадзіць ёй, калі яна патрабуе абараняць свой народ, бацькоўскі дом.

Лёсы двух афіцэраў у нечым падобныя — падпалкоўніка Валянціна Безмена і маёра Аляксандра Абраменкі. За сваю службу пабывалі шмат дзе. Напрыклад, Валянцін Безмен пачынаў у Забайкальскай акрузе, Закаўказскай, паслалі за мяжу. І вось нядаўна вярнуўся ў Беларусь.

— Дома служыць лягчэй. Усё роднае, сваё. Шкада толькі, што крыху забыў мову. Нават тэкст прысягі на беларускай мове не адразу адолеў. Нічога; справа, як кажуць, паправная. У мяне двое дзяцей, разам з імі цяпер і вывучаю родную мову.

Нялёгка даваўся тэкст ваеннай прысягі многім афіцэрам. У гэтым было няцяжка пераканацца і мне. У Міністэрстве абароны я так і не пачуў беларускай гаворкі.

Але вернемся да сустрэч з афіцэрамі.

— Якое ўражанне ў вас ад гэтага святочнага дня? — пытаюся ў Аляксандра Абраменкі.

— Я парадаваўся за сваіх сяброў. І сапраўды беларусам удалося стварыць святочную атмасферу. Што ж тычыцца прысягі, то я яе не... прымаў. Сам па нацыянальнасці рускі. Служу ў беларускім войску часова. Ужо падаў рапарт на звальненне.

— Ці ж цяжка вам будзе расставацца з сябрамі, нашым краем?

— З сябрамі развітвацца заўжды цяжка. Тым больш, што з некаторымі праслужыў многія гады: Безменам, Янчанкам, Смунёвым... Не мачахай была для мяне і ваша беларуская зямля. Праўда, з ёю я не парываю назаўжды. У Мінску застанецца жыць дачка, буду ездзіць і да яе, і да сваіх таварышаў па службе.

— Вы едзеце на радзіму, каб працягваць службу ў войску Расіі?

— Вельмі хачу пакінуць службу. Уладкавацца жыць у ціхім месцы — на сваёй Ноўгарадчыне. Заняцца асабістай гаспадаркай, рыбалкай. Крыху стаміўся ў арміі.

— Ведаю, Аляксандр, што вы не адзін "іншаземец" у беларускай арміі. Ці ж усе паедуць у свае краіны, якія мы называем блізкім замежжам?

— Многія, але не ўсе.

Мая апошняя сустрэча якраз і адбылася з такім чалавекам ля Міністэрства абароны. Віктар Шаўчэнка — украінец. Сёння ён даваў клятву на вернасць беларускаму народу.



— Вы, таварыш маёр, — пытаюся ў афіцэра, — не лічыце, што застаяцеся служыць у чужым войску?

— Такога адчування няма. Я ніяк не магу душой спасцігнуць, што адбылося нейкае раздзяленне ўзброеных сіл былога СССР. Напэўна, пройдзе нямала часу, пакуль розніцу, дзе служыць — у Беларусі, на Украіне, у Расіі — мы будзем адчуваць. Яшчэ аб адным. Мне ўжо позна вяртацца дамоў на Палтаўшчыну. Праз год пайду на пенсію. На Украіне амаль нікога са сваякоў не засталося. Тут, у Мінску, маю трохпакаёвую кватэру. Жонка — мясцовая, беларуска. Абодва сыны, хоць і пішуцца ўкраінцамі, жывуць таксама ў Мінску. Адзін, Іван, служыць ва Уруччы прапаршчыкам. Другі, Мікалай, на "Інтэграле" працуе наладчыкам. Калі пайшло дзяленне былога СССР, мы нібыта сямейны савет правялі наконт таго, якую краіну выбраць. Можаце лічыць, што аднагалосна выразылі: Беларусь.

Прыклад з Шаўчэнкам не адзінкавы. Нямала ўкраінцаў, рускіх, афіцэраў іншых нацыянальнасцей далі клятву на вернасць беларускаму народу.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ: у дзень прынясця прысягі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

З НАШАЙ ПОШТЫ

# АД КАГО ЗАЛЕЖЫЦЬ?

З ВЯЛІКІМ сумам чыталіся нататкі Алеся Карлюкевіча ў N 38 (1992 г.) "ГР", адрасаваныя хіба да энтузіястаў. Не, дарагі Алесь, не залежыць і ад энтузіязму, бо гэтая сістэма выклікае толькі падобныя да "Развітання" настроі.

Маё знаёмства з беларускай кнігай пачалося ў незапомны 1982 год. Цікавасць разбудзіла "Зямля пад белымі крыламі" У. Караткевіча, перакладзеная на літоўскую мову, музыкай зачаравалі вершы, перакладзеныя Ю. Гаўруком. Месца сустрэчы — мястэчковы кнігарні ў Заходняй Беларусі. Тое, што тады трапіла маім вачам, запала і ў сэрца. Такое багацце мастацкай і дзіцячай літаратуры. Яна авалодала мною так, што я авалодаў мовай. "Вінаватыя" ў тым юбілеі Купалы і Коласа, Арабей з Цёткай, Рагойша, Арочка дый Панізьнік. Потым я адкрыў Багдановіча, Гарэцкага, Скрыгана, пачуў Шыпілу і Мархель, пабачыў Мальдзіса і Зоську Верас. Так знаёмства перарасло ў каханне, я стаў кнігаманам. З таго часу амаль 100 разоў ездзіў па беларускіх кнігарнях, пераадолеў больш 10 000 кіламетраў і на столькі ж рублёў выбраў і перацягнуў кніг у Новую Вільню, у кнігарню.

І не толькі Новая Вільня — у самой Вільні, у гандлёвым цэнтры "Мінскас", адрадзіўся аддзел беларускай кнігі, кніжны кіёск з Віцебска прыязджаў на гастролі Коласаўскага тэатра ў Коўна, а купалаўцы прывезлі ў Літоўскі драмтэатр цэлую скрыню кніг на святкаванне Дня Незалежнасці разам з "Тутэйшымі". Паралельна з кніжным каналам капаўся й канал для перыёдыкі, так што адным часам мінулым летам толькі беларускія газеты і часопісы прадстаўлялі замежны друк у віленскіх кіёсках.

Ва ўсім гэтым шчыра дапамагалі з беларускага боку чарговыя працаўніцы кніжнага гандлю — і астравецкага КААП, і віцебскага "Светача", і маладзечанскай "Спадчыны", і мінскага "Вільнюса", але колькі яны маглі? Колькі мы складвалі папярэдні заказаў — адно картак шкада — і ў Астраўцы, і ў "Мінскас", і ў "Вільнюсе" — яны не выконваліся. Выкупіць удалося толькі 13 камплектаў збору твораў Караткевіча ў астравецкай кнігарні. Нарэшце рэкламы — дык ужо пяты год не можам атрымаць бюлетэнь "Кнігарня", які распаўсюджваецца толькі па розніцы, а з гэтага лета дык і падпіскі няма. З кнігамі наогул стала цяжка. Кудысь зніклі дзіцячыя цудоўныя беларускія кніжкі, ужо два гады дарма іх шукаць па беларускіх кнігарнях. Няма што пакласці на паліцы тых дзвюх віленскіх кнігарняў не толькі гісторыка-краязнаўчай, а нават і мастацкай літаратуры. У найлепшым выпадку дастаеш па 1-2 экземпляры, як ласунак для сябра, калі нам не так многа трэба — якіх дзесятак экземпляраў. Крыўдна, але нават "Родных дзяцей" Ніла Гілевіча я натрапіў толькі для сябе. З іншага боку, ёсць ужо ў Вільні і ТБК, і "Сябрына", і "Наша ніва", і нават шопік "Гуда". Пачалося адраджэнне, а з кнігай засуха. Нават у "Кнігарні пісьменніка" не змаглі набраць ані якасці, ані колькасці для святочнага кіёска на 25 сакавіка (дзякуй спадару Яўгену Лецку: калі б не ягоны бескарыслівы дадатак). А цяпер, калі ўзніклі грашовыя бар'еры, кніганоша павінен заняцца хіба кантрабандай. Саматужны канал заглух, адзіночныя намаганні і пажаданні марныя. Трэба справу ставіць на дзяржаўны, нават міждзяржаўны падмурак, патрэбны адпаведны партнёр, адпаведная ўстанова. Вільня калісьці карміла Мінск хлебам надзённым духоўным, цяпер жа, наадварот, Мінск, пакажы прыклад, адчыні ў Вільні кантору "Беларуская кніга" (адпаведнік с.п. "Международная книга"), такое свайго роду культурнае пасольства ў бліжэйшай сталіцы, бо няма ў Еўропе дзвюх бліжэйшых сталіц. Мо разам з гэтым вырашыцца і праблема падпіскі, якая не можа рушыць з месца без адпаведных міждзяржаўных пагадненняў. Слова за вамі, шаноўныя дзяржаўныя мужы.

**Валдас БАНАЙЦІС.**
**Новая Вільня.**

## ВЫДАННІ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"




"У землякоў за акіянам" Таццяны Антонавай — апошняя кніжка "Бібліятэчкі "Голасу Радзімы" не толькі ў мінулым годзе, але, здаецца, і наогул у гэтай серыі. Прыблізна за трыццацігадовы тэрмін было выдадзена немала цікавых, арыгінальных, даволі смелых для свайго часу твораў, аўтарамі якіх былі такія выдатныя вучоныя, як В. і А. Грыцкевічы, В. Шалькевіч, Н. Ватацы, А. Кароль, І. Ігнаценка, У. Конан, І. Саверчанка і многія іншыя.

Бадай, ва ўсіх кніжках расказвалася пра Беларусь: старажытную, пасляkастрычніцкую, ваенную, сучасную, пра славутых землякоў, пра дасягненні навукі, культурнае жыццё, мастацтва, гаспадарку.

"У землякоў за акіянам" — кніжка іншага плана. Яна пра замежных беларусаў, якія апынуліся ў Злучаных Штатах Амерыкі па другой сусветнай вайне. Шчыра прызнаемся, што і "Голас Радзімы", які заўсёды быў арыентаваны на замежных суайчыннікаў, мала ведаў і яшчэ менш пісаў пра гэты пласт беларускай эміграцыі. Змяніліся часы, абставіны, у "Голасу Радзімы", як і ў іншых выданняў, з'явіліся новыя магчымасці.

У жніўні 1991 года ў ЗША пабывала Т. Антонава, якая ў той час працавала ў "Голасе Радзімы". Яна мела магчымасць сустрэцца з многімі беларусамі, імёны якіх і ў сённяшняй Беларусі выклікаюць павышаную цікавасць і вельмі неадназначныя адносіны. Наталля Арсеннева, Міхась Кавыль, Антон Шукелойць, Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Богдан Андрусышын (Данчык), іншыя людзі сталі героямі зборніка "У землякоў за акіянам". Аўтарка дала ім магчымасць расказаць пра сябе, выказаць уласны погляд на сваё складанае, часта супярэчлівае жыццё.

Калі мы ўпершыню ў рэдакцыі чыталі артыкулы Т. Антонавай, нам часта хацелася, каб пазіцыя аўтара была больш акрэсленай, але найчасцей гаварылі яе героі. І можа такое стаўленне было самым мудрым. Напрыклад, Наталлі Арсенневай ніколі за ўсе 50 пасляваенных гадоў не прадстаўлялася магчымасць расказаць пра сябе і свой лёс землякам на Бацькаўшчыне, дзе ёй прад'яўлялася шмат абвінавачванняў. Ці задавальняюць яе тлумачэнні, ці здаюцца пераканаўчымі? Цяжка адказаць, але ці патрэбны яны, гэтыя тлумачэнні наогул, калі за даўнасцю варта даравадь і зразумець многае і ніколі не забываць, што такой выдатнай паэткі, як Наталля Арсеннева, у беларусаў больш няма. Сённяшнія даследчыкі яе творчасці ставяць яе імя ўпоравень з імёнамі Ахматавай і Цвятаевай.

Вялікую справу, працуючы ў публічнай бібліятэцы ў Нью-Йорку, рабілі і робяць нашы земляні Вітаўт і Зора Кіпелі. Славянскі аддзел, у якім працуе З. Кіпель, мае найбольшы ў Амерыцы беларускі фонд, таму што вельмі зацікаўленым спецыялістам-бібліятэказнаўцам з'яўляецца наша суайчынніца. Тут захоўваецца больш за 20 тысяч беларускіх кніг, афіцыйная і нефармальная перыёдыка, першыя выданні Купалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча, поўны камплект "Нашай нівы", энцыклапедыі і многае іншае, што можа даць даволі поўнае ўяўленне пра беларусаў і іх гісторыю.

Дзякуючы кніжцы Т. Антонавай, мы даведаліся пра мастакоў, пісьменнікаў, навукоўцаў, якія працуюць на чужой зямлі, ніколі не забываліся пра сваю Бацькаўшчыну. Усе яны сталі нам бліжэйшымі і больш зразумелымі, таму што мы даведаліся, у што яны вераць, якому Богу моляцца, як гадуюць сваіх дзяцей, якія песні спяваюць, а самае галоўнае, што яны заўсёды помнілі Радзіму, заўсёды сумавалі ў разлуцы з ёю і імкнуліся да сустрэчы з ёю.

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**



**ПРАГУЛКА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**У папярэднім нумары "Голасу Радзімы" была надрукавана справаздача з Першага Сходу беларусаў блізкага замежжа, што адбыўся ў Мінску 19-20 снежня 1992 года. Сёння падаём тры важнейшыя дакументы (усяго было прынята пяць), ухваленыя сходам. Гэта — звароты да беларусаў свету, да народа Беларусі, да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзілі раней у склад СССР.**

# ДА ПАРЛАМЕНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЗЯРЖАЎ, ЯКІЯ ЎВАХОДЗІЛІ РАНЕЙ У СКЛАД СССР

У перыяд існавання адзінай унітарнай дзяржавы СССР многія дзесяткі і сотні тысяч беларусаў аказаліся за межамі Бацькаўшчыны. Гэта было выклікана шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын: палітычнымі рэпрэсіямі 20—50-х гадоў, эвакуацыяй насельніцтва БССР у 1941 годзе, прымусовымі і добраахвотнымі вярбоўкамі беларусаў на шахты Данбаса, сланцавыя радовішчы Эстоніі, лесараспрацоўкі Карэліі, цалінныя землі Казахстана, пракладку Байкала-Амурскай магістралі і г.д. Да выезду за межы Беларусі маладых, найбольш адукаваных людзей прыводзілі змешаныя шлюбы, служба ў Савецкай Арміі, усесаюзнае размеркаванне маладых спецыялістаў у некаторых беларускіх ВНУ і інш. Нямала беларусаў, якія памянялі месца жыхарства, знайшлі на іншых землях і сярод людзей іншых нацыянальнасцяў сваю другую радзіму. Яны засвоілі звычаі, традыцыі, культуру, мову гэтай другой радзімы, аддаюць дзеля яе росквіту ўсе свае сілы і здольнасці. Разам з тым яны не парываюць сувязяў і са сваёй Бацькаўшчынай, якая дала ім жыццё, надзяліла роднай моваю, неацэнным скарбам роднай культуры.

Сабраўшыся на свой сход, мы звяртаемся да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзілі раней у склад СССР, з просьбаю аказаць беларусам усебаковае садзейнічанне ў рэалізацыі іх нацыянальна-культурных запатрабаванняў, у іх прававой абароне, у захаванні і пашырэнні сярод іх беларускай мовы, культуры, звычаяў, гістарычнай памяці. Гэта паслужыць не толькі захаванню і духоўнаму ўзбагачэнню беларускага этнасу, але і развіццю беларуска-іншанацыянальных культурных узаемасувязяў, узаемаўзбагачэнню розных народаў і іх культур, а ў канчатковым выніку — умацаванню дружбы паміж беларускім і іншымі народамі, захаванню міру на нашай неспакойнай планеце. Са свайго боку, "Бацькаўшчына" абяцае рабіць усё, каб прадстаўнікі вашых дзяржаў, якія цяпер з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, мелі аналагічныя правы і ўмовы нацыянальна-культурнага жыцця.

**ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА.**

Менск, 20 снежня 1992 года.

# ДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Дарагія браты і сёстры!

Мы, удзельнікі Сходу беларусаў блізкага замежжа, горача вітаем усіх вас, каго розныя жыццёвыя варункі закінулі далёка ад зямлі сваіх продкаў! Ведаем: нялёгкая доля дасталася ўсім вам, не проста было ўладкаваць свой лёс у адасобленасці ад родных гоняў. Але і за тысячы вёрст ад Бацькаўшчыны высока трымалі вы гонар беларуса і Беларусі, самааддана перахоўвалі для ўсіх нас у чысціні і святасці нашы дзяржаўныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Шчыра жадаем кожнаму з вас моцнага здароўя і чалавечага шчасця!

Сёння разам з вамі мы цешымся, што новыя парасткі на ніве беларускага Адраджэння набіраюцца моцы і развіваецца імкненне да нацыянальнай кансалідацыі.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", як маладая незалежная арганізацыя, не абцяжараная ідэалагічнымі догмамі і стэрэатыпамі, рабіла і будзе рабіць усё, каб будаваць мост лучнасці, даве进 і дружбы паміж сынамі Беларусі на ўсіх кантынентах планеты.

Спадзяёмся, што трывалым і надзейным падмуркам у гэтай будоўлі стане Першы з'езд беларусаў свету, які мы маркуем правесці летам 1993 года ў Менску.

Гэты з'езд мы разглядаем як важнейшую агульнанацыянальную акцыю ў справе яднання беларускай нацыі дзеля адраджэння незалежнай, суверэннай Беларусі.

Жыве Беларусь!

**ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА.**

Менск, 20 снежня 1992 года.

# ДА НАРОДУ БЕЛАРУСІ

Мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацый і зямляцтваў з абшараў былога Саюза і Польшчы, дзе жыве больш за два мільёны беларусаў, сабраліся на кліч Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" на свой Першы Сход. Выяўляючы трывогу за лёс Беларусі, звяртаемся да ўсяго беларускага народа, грамадзян незалежнай Рэспублікі Беларусь з заклікам усвядоміць адказнасць моманту па адраджэнню беларускай дзяржаўнасці, культуры, мовы і традыцый народа.

Жывучы па волі лёсу на адрэзаных ад Бацькаўшчыны этнічных беларускіх землях ці ў аддаленых ад яе краінах, мы не страцілі пачуцця нацыянальнай годнасці, усведамлення, што Беларусь яшчэ тысячу гадоў назад пачала разбудоўваць уласную дзяржаўнасць і дасягнула найвышэйшага ўзлёту ў часы Вялікага Княства Літоўскага — супольнасці некалькіх народаў.

І ў старажытнасці, і ў Сярэднявеччы нашы продкі былі адданымі патрыётамі сваёй зямлі і здабывалі ёй славу як у ваяцкіх чынах, уменнем гаспадарыць, так і на ніве духоўнага самасцвярджэння. Вечны ім гонар за перамогі пад Воршаю і Грунвальдам, за Усяслава Чарадзея і Вітаўта Вялікага, Францішка Скарыну і Льва Сапегу, Максіма Багдановіча і Янку Купалу, за мудрае свята беларускай друкаванай кнігі, за тое, што ў нас была дасканала распрацаваная і дзейнічала лепшая для свайго часу Канстытуцыя — Статут Вялікага Княства Літоўскага!

Дык хіба можам мы, нашчадкі народа з такой багатай, а потым і трагічнай гісторыяй, быць абыякавымі да ўласнага лёсу, да патрэб нацыянальнага Адраджэння, якое толькі і можа быць гарантам шчаслівай будучыні, таго, што беларусы зноў стануць Гаспадарамі на роднай зямлі, дзе і рускія, і палякі, і ўкраінцы, і яўрэі, і літоўцы, і татары, што спрадвеку жылі ці нядаўна трапілі сюды, адчуюць, што Беларусь і ім стала Родным Домам, будзе такім, спадзяёмся, і для нас, беларусаў замежжа...

Дык будзьма, братове, у гэты час з'яднанымі і духоўна моцнымі, каб зрабіць нашу Маці-Беларусь сапраўды незалежнай, вольнай, эканамічна і духоўна развітай Дзяржавай у цэнтры Еўропы!

**УДЗЕЛЬНІКІ ПЕРШАГА СХОДУ БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА.**

Менск, 20 снежня 1992 года.

## *НОВАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ*

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ: ФЕДЭРАЦЫЯ ЦІ УНІТАРНАЯ ДЗЯРЖАВА?

Нашыя продкі так ніколі не лічылі. І так сапраўды ніколі не было. А тое, што Вялікае Княства Літоўскае заставалася юрыдычна незалежнай дзяржавай — Беларускай рэчай паспалітай да 3 траўня 1791 года і нават пазней — доказ тэндэнцыйнасці польскай гістарычнай навукі. Да канца XVIII стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічаў свабодны, дэмакратычна абраны заканадаўчы орган — Галоўны З'езд (Вальны Сойм); працавалі юрыдычна незалежны ўрад і мясцовая адміністрацыя; была свая ўстанова замежных спраў — Дзяржаўная Канцылярыя; існавала адметная фінансавая і эканамічная палітыка: свая дзяржаўная скарбонка; асобныя карныя структуры і вайсковыя фармаванні; свая сістэма ганаровых званняў і пасадаў. А галоўнае, тут функцыяніравалі ўласныя законы, сабраныя ў Статуце, якія якраз былі юрыдычным падмуркам незалежнага Беларускага гаспадарства.

Такім чынам, аніякага новага дзяржаўнага ўтварэння, вядомага пад назвай "Рэч Паспалітая", што нібыта паўстала ў 1569 годзе і праіснавала да канца XVIII стагоддзя, уключаючы беларускія і польскія землі, — проста не было. І да 1569 года, і пасля яго, бясспрэчна, існавалі дзве незалежныя дзяржавы — Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае, якія сапраўды мелі шчыльныя палітычныя кантакты, што выяўлялася пераважна ў дзвюх сферах: па-першае, спалучэнне ў адной асобе гаспадара Беларускай дзяржавы, які тытулаваўся "вялікім князем", і гаспадара Польшчы, які тытулаваўся "каралём"; па-другое, правядзенне агульных Вальных Соймаў, паслы на якія выбіраліся паасобку (на агульназемскіх З'ездах Вялікага Княства і Польшчы), па чарзе то ў адным, то ў другім гаспадарстве.

Вялікае Княства Літоўскае і Польшча нярэдка аб'ядноўваліся гэтаксама з мэтай сумесных вайсковых дзеянняў — абароны ад варожых нападаў ці здзяйснення буйнамаштабных кампаніяў, як, да прыкладу, супольных паходаў на Маскоўшчыну ў 1609—1611 гадах і ў 1617—1618 гадах.

Часам дзве суседнія дзяржавы ўзгаднялі і свае знешнепалітычныя намаганні, вырашалі агульныя дыпламатычныя задачы, накіраваныя як на захад (Данія, Францыя, Святая Рымская імперыя) і ўсход (Масковія), гэтак і на поўдзень (Асманская Турцыя, Крымскае ханства, Венгрыя, Румынія) ды поўнач (Швецыя).

Але палітычныя, вайсковыя і дыпламатычныя хаўрусы зусім не азначаюць, што нейкае з гаспадарстваў у выніку перастае існаваць. На працягу доўгага часу блізкія ўзаемныя стасункі былі ў аднолькавай ступені вельмі выгадныя абедзвюм дзяржавам.

Менавіта пералічаныя шчыльныя кантакты "абодвух народаў", іх "агульныя справы" ў XVII—XVIII стагоддзях сапраўды часам называліся "рэчай паспалітай абодвух народаў", што і дало нейкія падставы пазнейшым гісторыкам гаварыць пра існаванне нібыта адзінай дзяржавы. Але гэтае сцверджанне не адпавядае гістарычным рэаліям.

Што ж да магчымасці ўжывання словазлучэння "рэч паспалітая" (у сэнсе "дзяржава", "гаспадарства") сёння, то, каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны і нарэшце захаваць навуковы падыход да гістарычных з'яваў, належыць пісаць: Польская рэч паспалітая як сінонім Польскага Каралеўства і Беларуская рэч паспалітая як сінонім Вялікага Княства Літоўскага.

Сваю моц Беларускае гаспадарства захоўвала прыкладна да сярэдзіны XVII стагоддзя, але дзеля шматлікіх войнаў — са Швецыяй і Маскоўшчынай — яно паступова слабела. Найвялікшыя страты нашай дзяржаве прынесла вайна з Масковіяй 1654—1667 гадоў, калі была знішчана ледзьве не палова ўсяго насельніцтва Беларусі, разрабавана гаспадарка, парушаны ўвесь дзяржаўны арганізм.

Эканамічны заняпад і прыкметнае аслабленне ўсіх дзяржаўных структураў Вялікага Княства ў другой палове XVII— першай палове XVIII стагоддзяў спрычыніліся да крызісу культуры, духоўнага жыцця. У выніку на землі Беларусі павялічыўся наступ паланізацыі. У другой палове XVII стагоддзя супроць узрастання польскіх уплываў на Беларусі была найперш скіраваная дзяржаўна-палітычная і вайсковая дзейнасць віленскага ваяводы і гетмана Януша Радзівіла (1612—1655), які адкрыта заканфліктаваў з Польшчаю ды Масковіяй і ў 1655 годзе ўступіў у хаўрус са Швецыяй, маючы намер пры яе падтрымцы ўмацаваць Вялікае Княства. Але Я. Радзівіл не змог дасягнуць пастаўленай мэты: у 1655 годзе ён адышоў у нябыт.

Спробы ўзняць Вялікае Княства, аслабіць польскі ціск на Беларусі ў канцы XVII стагоддзя рабіў таксама наш гетман Казімір Павел Сапега, разлічваючы дасягнуць пастаўленай мэты ў час, калі Польшча вяла вайну з Турэччынай. Але ягоны намер не здзейсніўся. Знядужанае Беларускае гаспадарства не змагло, не здолела тады ўстаць з каленяў.

Ужо ў 1697 годзе пастановай Сойму ў Вялікім Княстве Літоўскім рэкамендавалася ажыццяўляць дзяржаўнае і судовае справаводства не на беларускай, як было заўжды, а на польскай мове.

Характэрна, што сацыяльныя выступленні беларускіх сялян і гараджан, пачынаючы з сярэдзіны XVII і да канца XVIII стагоддзя, былі нярэдка скіраваны і супроць польскага панавання на нашых землях.

Прыкметную антыпольскую афарбоўку мелі нават вядомыя Крычаўскае сялянскае паўстанне (1740—1744) пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы і Мазырскае паўстанне канца 50-х — пачатку 60-х гадоў XVIII стагоддзя.

На Беларускае гаспадарства, пачынаючы з другой паловы XVII стагоддзя, апрача Польшчы, усё больш пачынала ціснуць уздужэлая Маскоўская дзяржава. Па завяршэнні вайны 1654—1667 гадоў Масковія, паводле ўмоваў Андрусаўскага пагаднення (1667 года) з Вялікім Княствам і Польшчаю, анексавала вялікія тэрыторыі, што належалі Беларускаму гаспадарству — найперш Смаленск з навакольнымі землямі і ўсе левабярэжныя абшары Дняпра разам з Кіевам. У захопленыя беларускія гарады і паветы накіроўваліся царскія ваяводы і плойма расейскіх чыноўнікаў. Тут яны неўзабаве ўсталявалі сваю непадзельную ўладу.

У перыяд вайны 1654—1667 гадоў і пазней беларусы мужна змагаліся з Маскоўшчынай. Да прыкладу, у 1661 годзе ў Магілёве выбухнула моцнае, добра падрыхтаванае і арганізаванае паўстанне супроць расейцаў пад кіраўніцтвам магілёўскага ўрадоўца, бурмістра Левановіча.

Аднак нягледзячы на ўпартую барацьбу Вялікага Княства ў XVII стагоддзі за незалежнасць і дзяржаўную цэласнасць, яно не змагло вярнуць страчанае ў вайне 1654—1667 гадоў. У 1686 годзе ўрад Яна Сабескага (1674-1696) мусіў канчаткова пагадзіцца з ганебнымі для Беларускага гаспадарства ўмовамі Андрусаўскага замірэння 1667 года і падпісаць "вечную згоду" з Масковіяй.

Але і ў XVIII стагоддзі расейскія войскі літаральна днявалі й начавалі на беларускіх абшарах. Пакарыстаўшыся як зачэпкай патрабаваннямі Слуцкай канфедэрацыі — аб'яднання праваслаўных і пратэстантаў, што змагаліся за свае палітычныя і грамадзянскія правы, — расейскія войскі зноўку ўварваліся ў Вялікае Княства і ў 1773 годзе па-драпежніцку забралі Магілёўскае, Мсціслаўскае і значную частку Полацкага ваяводстваў.

Аднак нават пасля таго, як быў зламаны хрыбет Беларускай дзяржавы, яна працягвала існаваць як самастойнае, незалежнае гаспадарства. Юрыдычна яна была зліквідавана не расейцамі, а палякамі 3 траўня 1791 года на Сойме ў Варшаве са згоды апалячанай большасці беларускіх магнатаў.

Нягледзячы на пратэсты асобных дзяржаўных дзеячаў Вялікага Княства, найперш, Казіміра Сапегі (1750—1797), маршалка вялікакняскай канфедэрацыі, князя Сангушкі, віленскага пасла Корсака і ашмянскага пасла Хамінскага, — Сойм пераважнай большасцю галасоў зацвердзіў артыкул аб скасаванні Вялікага Княства Літоўскага як самастойнай дзяржавы. Рашэнне, прынятае Соймам, было антыканстытуцыйнае паводле ўсіх законаў. У дачыненні да Беларусі палякі, такім чынам, здзейснілі найвялікшае злачынства. Але іх тады мала хваляваў лёс нашага народа і нашае дзяржавы; яны клапаціліся толькі пра сябе, разлічваючы праз інкарпарацыю Княства ўмацаваць сваю дзяржаву. Так здзейснілася шматвяковая мара нашых заходніх суседзяў захапіць землі Вялікага Княства. Але й лёс Польшчы быў прадвызначаны, неўзабаве і яна страціла сваю дзяржаўнасць, па-драпежніцку падзеленая Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Нашыя землі ў выніку гэтых падзелаў анексавала Расея, і аж да 1918 года, да абвяшчэння БНР, яны былі так званым "западно-русским краем", пазбаўленым нават аўтаноміі ў складзе Расейскай імперыі.

Праўда, у часе паўстання канца XVIII стагоддзя ў Вільні 22-23 красавіка 1794 года была ўтворана Найвышэйшая Рада на чале з Якубам Ясінскім, якая абвясціла сябе ўладай у Вялікім Княстве Літоўскім і заявіла пра ўзнаўленне нашага гаспадарства. Але дзейнасць Рады была кароткачасовай.

Другая спроба аднавіць нашую незалежную дзяржаву адбылася ў 1811 годзе, калі Аляксандр І, імкнучыся перагарадзіць Напалеону шлях на ўсход, падтрымаў ідэю Міхала Агінскага аб стварэнні буфернай дзяржавы. Быў нават падрыхтаваны праект Канстытуцыі ўзноўленага Вялікага Княства, куды павінны былі ўвайсці Віленшчына, Беласточчына, Меншчына, Кіеўшчына і Падолле. Але праект застаўся неажыццёўленым, бо пачаўся наступ Напалеона.

Нарэшце, апошняя спроба была здзейснена ў 1812 годзе. Паводле загаду Напалеона ад 1 ліпеня 1812 года былі ўтвораны два гаспадарствы: "Літва", куды ўваходзілі Віленскія, Гарадзенскія, Беластоцкія і Менскія землі, а таксама "Беларусь", што складалася пераважна з былых усходніх тэрыторыяў Вялікага Княства.

Усе тры спробы аднавіць Вялікае Княства ў канцы XVIII—пачатку XIX стагоддзяў не мелі, аднак, прыкметных гістарычных вынікаў. Але яны з'яўляюцца яскравым сведчаннем, важкім гістарычным аргументам на карысць геапалітычнай неабходнасці існавання адметнай дзяржавы ў геаграфічным цэнтры Еўропы.

* * *

Палітычны лад Беларускага гаспадарства, які, вядома, зазнаваў эвалюцыю, у перыяд росквіту вызначаўся наяўнасцю найвышэйшага заканадаўчага органа — Галоўнага З'езда (Сойма), дэпутаты якога абіраліся дэмакратычным шляхам на павятовых сойміках шляхты. Дастаткова моцнай і дасканалай з'ўлялася выканаўчая ўлада Княства на чале з вялікім князем. У склад урада ўваходзілі ваяводы, кашталяны, маршалак земскі, маршалак дворны, найвышэйшы гетман, канцлер, падканцлер і земскі падскарбі, якіх называлі паны-рада. Мясцовую адміністрацыю ўзначальвалі кашталяны і старасты. Да судова-адміністрацыйнай рэформы 1564 года старасты кіравалі таксама і мясцовымі судамі.

На чале гарадоў, якія мелі самакіраванне (магдэбургскае права), стаялі войты, прызначаныя манархам. Непасрэднае кіраўніцтва жыццём горада з самакіраваннем ажыццяўляў выбраны ўсімі мяшчанамі бурмістр і меставая рада, якія праз устаноўлены законам перыяд чынілі справаздачу выбаршчыкам. Гарады з магдэбургскім правам мелі свой суд (лаву) і суддзяў (лаўнікаў), дзейнасць якіх кантраляваў войт. Суд, аднак, вяршыўся не паводле нейкіх уласных гарадскіх законаў, а паводле артыкулаў Статута, які быў адначасна і Канстытуцыяй, і агульнагаспадарчым Зводам Законаў.

Справаводства ва ўсіх дзяржаўных установах Княства вялося на беларускай мове, як таго і патрабаваў Статут.

Усе ўласнікі Княства — землеўладальнікі, арандатары, мытнікі і інш. цэнтралізавана ўносілі падаткі ў агульнагаспадарчую скарбонку. Сабраныя грошы скарыстоўваліся на рэчпаспалітыя патрэбы: пераважна на ўтрыманне дзяржаўна-адміністрацыйнага апарату ды вайсковыя справы.

Вялікае Княства Літоўскае з'ўлялася поліэтнічнай дзяржавай, але не федэратыўнага, а унітарнага тыпу, бо на ўсіх землях гаспадарства, пачынаючы з XV стагоддзя, дзейнічаў адзіны, агульнапрыняты закон — Статут, уносіць змены ў які нікому, аніякай мясцовай адміністрацыі, апрача Галоўнага З'езда (Сойму) Княства, строга забаранялася; на ўсіх абшарах гаспадарства існавала цвёрдая грашова-фінансавая і падатковая сістэма; дзейнічалі адзіныя прынцыпы судовага і адміністрацыйнага ўпарадкавання; быў прыняты агульны парадак прызначэння кіраўнікоў земляў, ваяводстваў і паветаў, якія незалежна ад месца мелі роўныя правы й абавязкі; паўсюль існавалі аднолькавыя правілы выбараў на соймікі і Галоўныя З'езды; манархам вызначаўся адзіны для ўсіх парадак і нават адны і тыя ж дні правядзення павятовых шляхецкіх соймікаў; нарэшце, існавала адзінае войска і адзіныя вайсковыя законы.

Як бачна, у Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічалі унітарныя прынцыпы дзяржаўна-палітычнага ўпарадкавання, а не федэратыўныя, як часам памылкова сцвярджаецца. Больш таго, усялякія сепаратысцкія памкненні далучаных да Княства земляў, ваяводстваў, паветаў ці проста асобных моцных феадалаў лічыліся найвялікшым парушэннем законаў Княства, дзяржаўным злачынствам і таму жорстка праследаваліся манархам і ўрадам. Прыгадайма гісторыю Рыгора Осціка, якога ў XVI стагоддзі якраз за здраду нялітасна пакаралі.

Своеасаблівы феадальны "федэралізм" у Вялікім Княстве меў месца толькі на пачатку ўваходжання новых земляў у склад гаспадарства, у пэўны "пераходны перыяд", калі далучаныя абшары "асвойваліся". Але ён, як правіла, з часам разбураўся пад націскам агульнай унітарнай тэндэнцыі, што панавала ў Беларускай дзяржаве, асабліва пачынаючы з канца XIV стагоддзя, калі Вітаўт на працягу 1392—1396 гадоў даастатку зліквідаваў сістэму мясцовага (удзельнага) княжання. З другой паловы XV стагоддзя цэнтралізацыйныя працэсы яшчэ больш паскорыліся, бо набылі вагу агульнагаспадарскія законы.

Зразумела, не заўсёды унітарная тэндэнцыя перамагала. Былі й выключэнні. Так, асобныя тэрыторыі, пераважна на ўсходзе Княства, імкнучыся захаваць свой "федэралізм", праводзіць уласную, незалежную ад Вільні палітыку, пачыналі лавіраваць, шукаць падтрымкі ў суседняй Маскоўшчыне ці нават з розных капрызаў пераходзіць пад яе ўладу. Але чым для іх гэта скончылася — агульнавядома.

Такім чынам, паводле дзяржаўна-палітычнага і адміністрацыйнага ўпарадкавання земляў, сістэмы кіравання і нормаў дзяржаўнага рэгулявання, нарэшце, функцыяніравання ўсіх гаспадарскіх структураў, а гэтаксама паводле сукупнасці эканамічных, палітычных, этнічных ды культурных дамінантаў Вялікае Княства Літоўскае фактычна было Беларускай імперыяй з усімі рысамі, уласцівымі такому тыпу дзяржаўных утварэнняў у эпоху Сярэднявечча. Дадатковым сведчаннем імперскага характару Беларускага гаспадарства з'ўлялася і тое, што яно ў перыяд свайго росквіту ды эканамічнага ўздыму адкрыта абвяшчала свае прэтэнзіі на першынство ў славянскім свеце, і не толькі ў ім. Так было ў перыяд княжання Вітаўта, Казіміра, Аляксандра і асабліва Сцяпана Батуры, калі нават паўстаў план крыжовага паходу "праз Маскву на Турэччыну".

Зразумела, нашая сярэднявечная імперыя мела адметныя, непаўторныя рысы, якія адсутнічалі ў шэрагу тагачасных гаспадарстваў гэткага ж тыпу. Найперш, яна была кантынентальнай імперыяй. Беларускай дзяржаве быў уласцівы адносна дэмакратычны лад, найвышэйшы ў Еўропе ўзровень развіцця тэорыі права і дасканаласць судовай практыкі, непасрэднымі вынікамі чаго сталіся — адсутнасць жорсткай тыраніі, усталяванне абмежаванай манархіі, урадавая абарона грамадзянскіх правоў і свабодаў, набліжэнне да рэлігійнай талеранцыі, канфесійнай і этнічна-культурнай цярпімасці ды інш. Пералічаныя прыкметы складалі, аднак, толькі своеасаблівасць Беларускай імперыі, але не змянялі ейнай сутнасці.

Вядома, значэнне гэтых адметнасцяў велізарнае. Дзякуючы ім у Вялікім Княстве, пакуль яно існавала як дзяржава да канца XVIII стагоддзя, не зніклі бясследна буйныя этнічныя групы насельніцтва — жамойты, татары, габраі ды інш. Яны скарысталі ўсе існуючыя тады палітычныя і грамадзянскія свабоды і, наколькі змаглі, захавалі сваё этнічнае аблічча. Асобныя з іх, да прыкладу, жамойты, пазней утварылі нават сваю незалежную дзяржаву. Праўда, яе назоў — "Літва" (або "Летува") замест Жамойць — належыць прызнаць гістарычна памылковым.

Своеасаблівыя рысы даўняй Беларускай дзяржавы прыкметна адрознівалі яе і ад суседняй Маскоўшчыны, дзе панавала жорсткая таталітарная сістэма, неверагодны ціск на свой народ з боку дэспатычных дзяржаўных і ўрадавых структураў, неабмежаваная тыранія маскоўскіх манархаў, поўная грамадзянская неабароненасць асобы, адсутнасць элементарных палітычных свабод грамадзян і г.д.

* * *

Такім чынам, Вялікае Княства Літоўскае — гэта спецыфічнае дзяржаўнае ўтварэнне, што існавала ў XIII—XVIII стагоддзях у геаграфічным цэнтры Еўропы, прамой пераемніцай якой была — пасля скасавання і працяглага знаходжання ў складзе Расейскай імперыі — Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, а затым утвораная ў 1919—1920 гадах (1 студзеня 1919 года — першае абвяшчэнне і 31 ліпеня 1920 года — другое абвяшчэнне) Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Нарэшце, сёння пераемніцай гістарычных і культурных традыцый Вялікага Княства з'яўляецца суверэнная з 1991 года Рэспубліка Беларусь.

**Іван САВЕРЧАНКА.**

**Заканчэнне. Пачатак у N 1.**

# СЛОНІМСКАЕ МЕЦЭНАЦТВА МІХАЛА КАЗІМІРА АГІНСКАГА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

асабістыя вялікія таленты, падштурхоўвала яго да мастацкага мецэнацтва і ўласнай творчасці.

Нашчадак каласальнай маёмасці, на жаль, фатальна кіраваны, ён абапіраўся на дарадчыкаў, якія пры ім нажылі немалыя беларускія маёнткі (Манюшка, Оштарп, Сымон Скірмунт, Хамінскі, Ляхніцкі і, асабліва, Войцах Пуслоўскі), і памёр амаль у беднасці. Асабліва тут яму зашкодзілі рэпрэсійныя канфіскацыі Слонімскай і Пінскай эканомій пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. Гэта была помста царыцы за ранейшыя і нядаўнія палітычныя "грахі".

Да таго ж пасля вяртання ў Польшчу ў 1774 годзе ён яшчэ мусіў прадаць сваёй пляменніцы Галене з Пшаздзецкіх Радзівілавай падваршаўскі Нябораў. Гэтая цудоўная рэзідэнцыя, заснаваная ў XVII стагоддзі прымасам Радзяёўскім, павінна была стаць галоўнай сядзібай гетмана. Уклаў ён у яе адбудову, аздабленне і паркі значныя сродкі — на жаль, дарэмна для сябе. І толькі тады ён рашыў перанесці сваё сталае жытло, свой мастацкі асяродак на беларускае Палессе — у Слонім. Гэта была страта для Польшчы і — культурны здабытак для Беларусі, таму што з таго моманту на працягу дваццаці гадоў Слонім становіцца "палескімі Афінамі".

Давайце цяпер пяройдзем, нарэшце, да слонімскага мецэнацтва гетмана.

Слонім увайшоў ва ўладанне Агінскага ўжо ў 1761 годзе — як частка пасагу Аляксандры з Чартарыскіх, па першаму шлюбу Аляксандры Міхалавай Сапега. Значыць, гэта не была пустэча, як часта пісалі. Ужо існаваў там палац, збудаваны падковай. Гетман яго толькі крыху перабудаваў: прыстасаваў для сваіх патрэб унутраныя памяшканні, асабліва бальную залу ("канцэртзалу"), і абсталяваў 46 пакояў, а не болей сотні, як пісалі ў панегірыках. Існавала таксама і квітнеючае, хоць і малое, мястэчка з касцёлам, вялікай уніяцкай царквой, чатырма кляштарамі, нібы цалкам узятае з "Манамахіі" І. Красіцкага. Была і мясцовая культурная традыцыя, таму што падканцлер Сапега меў тут свой уласны мастацкі асяродак.

У 1765 годзе гетман пашырыў існуючую прыдворную капэлу. Адначасова ўзяўся ён і за іншыя пільныя справы. У першую чаргу заняўся дарогамі — магчыма, пад уплывам выпадку 1748 года, калі ў палескіх балотах ён загубіў свой вельмі каштоўны багаж і ледзь застаўся жывым... Па яго ініцыятыве і на яго кошт была намечана і пракладзена шаша Пінск—Слонім, а таксама Пінск—Валынь.

Адначасова Агінскі ўзяўся за ажыццяўленне больш значнай канцэпцыі — аднаўленне і рэалізацыю праекта Багуслава Радзівіла, забытага наватара XVII стагоддзя, злучыць басейны Балтыйскага і Чорнага мораў, г.зн. злучыць Нёман з Дняпром праз рэчку Лошу і канал, які да сённяшняга дня мае назву канал Агінскага. Кошт усёй ініцыятывы быў велізарны: давялося выкласці 12 мільёнаў злотых з уласнай касы. Будаўніцтва працягвалася доўга, перапынялася грамадзянскай вайной ды замежнымі выездамі гетмана. Аднак ужо на пачатку работ, у час сейма 1768 года, дэпутаты ў панегірычных прамовах дзякавалі Агінскаму за канал і рашылі ўвекавечыць яго помнікам. Да гэтага тады не дайшло, але, відаць, магло б дайсці цяпер... Канал быў ужо адкрыты ў 1784 годзе, калі ў час адсутнасці гетмана ў Слоніме, выкліканай палітычнымі матывамі, там гасцяваў Станіслаў Панятоўскі, якога па-каралеўску прымалі на водах канала.

Вяртанне гетмана ў Слонім мела для развіцця мястэчка такое ж каласальнае значэнне, як і ранейшыя працы над пралягаючым паблізу каналам. Пастаўкі для магутнага гетманскага двара, мастацкага асяродка і асабістай рэзідэнцыі, а таксама звязаны з каналам гандаль мацавалі і памнажалі даходы жыхароў Слоніма. Гетман не толькі пашырыў палацавыя сады і паркі, зрабіў там — па заходняму ўзору — фантаны, павільёны для адпачынку, "кафехаўз", але і збудаваў новы оперны тэатр і, нарэшце, заклаў парк у сваіх Целяханах і ўзвёў невялікі палац у Ганарадзіне. Узніклі таксама розныя мануфактуры, што ўзбагачалі горад. Гэты росквіт перапыніўся назаўсёды адразу ж пасля расійскай канфіскаты Слоніма ў 1793 годе. Будынкі палацаў руйнаваліся і неўзабаве зніклі з паверхні зямлі.

Аднак гетман Агінскі меў і больш шырокія грамадскія планы: будаваў касцёлы (да прыкладу, у Сміловічах — праз ашуканца Манюшку, пазней была гэта ўласнасць Ваньковічаў), цэрквы, заснаваў вельмі шчодрую фундацыю для студэнтаў Віленскай акадэміі, закладваў шпіталі і нават меў намер стварыць у Вільні прытулак для састарэлых салдат — па ўзору парыжскага "Атэля інвалідаў". Аднак да гэтага апошняга справа не дайшла.

Пяройдзем цяпер канкрэтна да музычнага мецэнацтва Міхала Казіміра Агінскага. З крыніц мы добра ведаем, што ён быў вядомым самадзейным музыкам — у адпаведнасці з традыцыяй многіх польскіх і літоўскіх арыстакратаў. Пра яго кампазітарскую творчасць, як славутыя паланезы, так і партытуры опер, я выказаўся, спрабуючы ўстанавіць яго асабістае аўтарства ці аўтарства яго сваяка Міхала Клеафаса Агінскага, якога часта з ім блытаюць. Ці памагаў яму ў кампазіцыях Феліччэ Марыні (у Слоніме ён быў у 1781—1788 гадах) і ці ўдзельнічаў у яго ных літаратурных справах Ігнат Ляхніцкі — гэта ўжо іншая гаворка.

Гетман збудаваў у Слоніме новы цагляны тэатр-оперу, абсталяваны самымі новымі тады механізмамі, якія дазвалялі ствараць на сцэне нават водныя каналы і азёры. Архітэктарам і дэкаратарам гэтага раскошнага будынка, аздобленага мармурам, крышталёвымі люстрамі, пазалотай і прыгожым паркетам, быў вядомы Іначэнца Мараіна, італьянец, вельмі заслужаны для тэатральнай культуры Польшчы і Беларусі. Слонімскі тэатр мог змясціць дзве тысячы гледачоў. Пра яго дзейнасць у нас ёсць вельмі дакладныя звесткі з 1784 года, калі ў адсутнасць гаспадара ў Слоніме прымалі Станіслава Аўгуста.

Яшчэ да ўвядзення новага "Опернхаўза" Агінскі пашырыў свае музычныя калектывы. Ад сціплага пачатку ў 1765 годзе аркестр і яго салісты дараслі ў 1776 годзе да 53 выканаўцаў, якіх гетман меў у добрай апецы ды шчодра аплачваў. Яго выдаткі на музычныя калектывы былі значна большыя, чым у каралеўскага двара і многіх двароў тагачаснай Еўропы. Салістамі выступалі выдатныя італьянскія, нямецкія і чэшскія артысты, а таксама палякі і мясцовыя ўраджэнцы, якіх вучылі дзеля "бэль канта" італьянскай мове і агульнаадукацыйным дысцыплінам. У Слоніме ніколі не выкарыстоўваліся прыгонныя сяляне, як гэта было ў Расіі — у Шарамецьеве, Кускове і Астанкіне.

Свайго апагею музычны асяродак у Слоніме дасягнуў каля 1780 года — пасля ж наступіў канчатковы ўпадак, звязаны з падзелам Рэчы Паспалітай у 1793 годзе і адпаведным збядненнем гетмана. Рэшткі яшчэ нейкі час існавалі ў Целяханах (да 1795 года), а таксама ў Гелянове каля Варшавы, апошняй сядзібе Агінскага.

Побач з музычным калектывам існаваў таксама балетны, вельмі блізкі сэрцу гетмана. Ён узнік у 1777 годзе. А з 1781 да 1792 года існавала, што добра пацвярджаецца дакументамі, балетная школа, у якой увесь час займалася да дваццаці асоб. Іх не толькі вучылі танцаваць, але і давалі агульную адукацыю. Наколькі нам вядома, трупа патрабавала вялікіх выдаткаў. У 1792 годзе школа перанеслася ў Целяханы і была закрыта толькі пасля смерці гетмана ў 1800 годзе.

Слонімская балетная школа была нязвыклай. Узорам для яе, можа, паслужылі нясвіжская трупа Радзівілаў або гродзенская Тызенгаўзаў. Але, у адрозненне ад іх, слонімская была незалежнай, мела ўласныя будынкі, арганізацыю і апеку. Ніхто тут нікога не выкарыстоўваў. Слонімскі балет пад кіраўніцтвам Шлянцоўскага атрымаў высокую ацэнку ў час гастроляў у Варшаве ў 1788 годзе, а таксама "кантрактаў" у Дубне ў 1790-1791 гадах.

Падобна складваўся лёс і тэатральна-драматычнага калектыву, які існаваў з 1770 года. Ён меў у сваім распараджэнні багатую касцюмерную, прыдворных цырульнікаў, грымёраў, дэкаратараў, а таксама ўласнае памяшканне, дапаможных работнікаў. Як і астатнія слонімскія калектывы, тэатр заняпаў пад канец І Рэчы Паспалітай, каля 1790 года, таму што ўжо не стала гетманскіх грошай... Выпадае тут добрым словам прыгадаць генерала Станіслава Вайніловіча, які па даручэнні гетмана многія гады з'яўляўся адміністратарам слонімскага тэатра, а таксама оперы і балета.

А цяпер — асноўнае пытанне: што ж выконвалі ў Слоніме — у "канцэртзале" палаца і ў оперы? Існуючыя дакументы, якія датычаць партытур, указваюць найперш на аўтараў, што прадстаўлялі "Мангеймскую школу". Гэта — Стаміц-старэйшы, які, відаць, сам наведаў Слонім, Эйхнер, Таэскі, Фільц, Гольцбаўэр, Ванкель, Вагензайц, Крамер, а таксама славутыя Бакерыні і Дзітэрсдорф, якія ўжо звязаны з венскімі класікамі. Сустракаем таксама прозвішчы берлінскіх маэстра — Кірнберга, Тэлемана, Бэке, Мюнхгайзера. Гучалі і творы Гайдна, Піхля, Марціні і Руста. Такім чынам, слонімскі асяродак з'яўляўся своеасаблівым прадстаўніцтвам "Мангеймскай школы", самай значнай у тагачаснай Еўропе, а таксама яе венскіх паслядоўнікаў.

Калі ж гаварыць пра оперны рэпертуар, то ў Слоніме былі партытуры Паізіела, Дуні, Грэтры, Мансіньі, Ёмелі, Сакіні, Гугльельмі, Глюка — усё тое, што тады было модным і ставілася на вялікіх сцэнах опернага свету. Відаць, былі і польскія оперы, часта прадстаўленыя творамі самога гетмана. У тэатры выконваліся многія творы Вальтэра, а балеты, пастаўленыя Шлянцоўскім, засноўваліся на значных, вядомых у свеце музычных шэдэўрах.

Сваім музыкам гетман даваў выдатныя інструменты, зробленыя Амаці, Гварнеры, нават Страдзіверы, а таксама майстрамі з мануфактур у Мільтэнвальдзе (напрыклад, Клотцамі). Ён таксама, відаць па ўсім, распачаў у Слоніме выраб уласных інструментаў — пад кіраўніцтвам вядомага лютніста Яна Ланге.

Такім чынам, музычны асяродак гетмана Агінскага быў самым выдатным музычным асяродкам у Беларусі. Ён намнога апярэджваў Нясвіж ці Гродна, што супернічалі з ім, ўзвышаўся над каралеўскім дваром і нават над вядомымі дварамі нямецкіх пануючых дынастый. Дзейнічаў ён нядоўга, але гэта было ўжо вынікам палітычнай сітуацыі ў І Рэчы Паспалітай, што паволі занепадала.

Аднак мастацкае мецэнацтва гетмана не абмяжоўвалася толькі разгледжаным, блізкім яго наму сэрцу напрамкам. Ён быў таксама вытанчаным збіральнікам карцін, сведчаннем чаго з'яўляецца іх пасмяротны варшаўскі інвентар. Гэтыя зборы былі распрададзены, і сёння дакладна невядома, з чаго складалася калекцыя. Затое мы ведаем яго выключны набытак 1791 года, пра "Лісоўшчыка" ("Вершніка") Рэмбранта, які сёння знаходзіцца ў адной з калекцый у Нью-Йорку. Гэтая карціна, купленая ў Амстэрдаме, была аддадзена каралю Станіславу Аўгусту за апельсінавыя дрэўцы для Слоніма і Гелянова.

Згодна з меркантылісцкай тэорыяй, суперніччаючы з Радзівіламі, даўно ўжо актыўныя ў гэтай галіне, гетман заснаваў у Слоніме пад канец 70-х гадоў вытворчасць габеленаў, дываноў, а таксама "персіярню", дзе ткаліся паясы. Выраблялі там нягнуткія дываны з гербамі, а таксама габелены (адзін з іх, у форме экрана да каміна, быў у 1788 годзе падараваны каралю). Што ж датычыцца стварэння ў Слоніме шаўковых габеленаў для "канцэртзалы" з выявамі 12 антычных фігур, то яшчэ працягваюцца навуковыя спрэчкі. Аднак мы ведаем, што ў Слоніме, як пісаў каралю сам гетман, "ткалі воўну і шоўк". Існуюць таксама іншыя цудоўныя шаўковыя тканіны, якія на гістарычнай падставе можна звязаць з дзейнасцю слонімскіх майстроў. У слонімскіх варштатах, напэўна, выраблены таксама габеленавыя папоны з гербамі і манаграмамі гетмана — цяпер яны захоўваюцца ў польскіх дзяржаўных калекцыях і нядаўна выстаўляліся ў Мінску.

Нарэшце, у канцы 70-х гадоў, паўстала таксама целяханская "фарфурня". У ёй выраблялiся сталовыя сервізы ў "англійскім гусце", якія праз Рыгу вывозіліся на Захад. Зрэшты, яны карысталіся вялікім попытам, бо былі вельмі прыгожыя. Прыгожа выглядалі таксама дэкаратыўныя вазы, якія выраблялiся больш на продаж, чым для дэкаравання гетманскай рэзідэнцыі.

Слонімская і целяханская мануфактуры, вельмі заслужаныя для беларускага дэкаратыўнага мастацтва, спыніліся, як і ўсе пачынанні Міхала Казіміра Агінскага, сваю дзейнасць пасля 1790 года. Так вырашыла жорсткая гісторыя нашых народаў.

**Анджэй ЦЕХАНАВЕЦКІ.**

**Пераклад з польскай мовы Сяргея КУПЦОВА.**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**А. Цеханавецкі напісана кніга "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба муз" у Слоніме". Урыўкі з яе мы прапануем чытачам у наступных нумарах.**

## СЕНСАЦЫЯ АДБЫЛАСЯ!

У Санкт-Пецярбургу праходзіў Першы міжнародны конкурс піяністаў імя Сяргея Пракоф'ева. Усеагульную ўвагу прыцягнуў семнаццацігадовы выхаванец Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі Юрый Бліноў. Ён ужо з першага тура ўразіў слухачоў таленавітым выкананнем твораў Пракоф'ева, Шастаковіча, Рахманінава, а пасля другога тура нават з'явіліся публікацыі ў пецярбургскіх газетах "Ці адбудзецца сенсацыя?". Ішла гаворка, што самы малады піяніст дэманструе самыя глыбокія і ўражальныя інтэрпрэтацыі твораў Пракоф'ева. Чакаліся яго выступленні і на трэцім туры з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Санкт-Пецярбургскай філармоніі. І гэтыя чаканні спраўдзіліся. Юрый Бліноў выдатна выканаў Першы канцэрт Пракоф'ева. Журы прысудзіла яму першае месца і спецыяльны прыз за лепшае выкананне гэтага канцэрта.

Да сенсацыйнай перамогі Юрыя прывяла дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Людміла Шаламенцава.

Пасля перамогі ў Пецярбургу Юрыю паступіла шмат цікавых прапаноў на замежныя гастролі, на запісы грамплацінак і кампакт-дыскаў. 6 лютага адбудзецца ўрачысты канцэрт, які завершыць міжнародны конкурс імя Пракоф'ева: за дырыжорскі пульт стане пераможца конкурсу дырыжораў, салістам абвешчаны Юрый Бліноў — пераможца конкурсу піяністаў.

## ПРАЕКТ — НА РАЗГЛЯД УРАДА

У Саўміне рэспублікі сумесна з Міністэрствам культуры, Міністэрствам фінансаў, Дзяржэканомпланам і Акадэміяй навук Беларусі разгледжана прапанова Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны — аб стварэнні нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла". Ідэю стварэння такога творчага аб'яднання Савет Міністраў падтрымаў. А Міністэрству культуры даручана падрыхтаваць праект рашэння Саўміна па пытанні арганізацыі "Беларускай Капэлы" і, узгадніўшы яго з адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі, унесці на разгляд урада.



**Ансамбль танца і народнай музыкі "Верасень" Гарацкага цэнтра культуры нарадзіўся зусім нядаўна. Вясёлыя беларускія мелодыі ў выкананні самадзейных музыкантаў палюбіліся гледачам. За высокае выканаўчае майстэрства ансамбль удастоены звання народнага.**

**НА ЗДЫМКУ: за цымбаламі — выкладчык музычнай школы пасёлка Рэкта Ірына ГАЙДАШ.**

### ЦІ ПАЎСТАНЕ МУЗЕЙ МУЗЫКІ І ТЭАТРА?

# У ЭКСПАНАТАХ ВОДАР ЧАСУ

Не ведаю, можа пад'езды ў XIX стагоддзі выглядалі менавіта так, як гэты ўваход у будучы музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, а можа гэта проста стылізаваная пад мінулае фантазія архітэктара. Як бы там ні было, але ж надзвычай утульным падасца ён кожнаму, хто выпадкова ці спецыяльна натрапіць на яго ў самым цэнтры Траецкага прадмесця. І здаецца, што лепшага месца для музея, чым тое, адкуль некалі пачаўся Мінск, знайсці нельга. Але музей — у будучыні. Зараз тут размяшчаецца рабочая група, якая праз некалькі год вырасце ў калектыў музея, тут жа, у гасцёўні Галубка, праводзяцца вечарынысустрэчы з вядомымі спевакамі і акцёрамі, аматары тэатральнага і музычнага мастацтва збіраюцца ў невялікай утульнай зале, каб успомніць вядомых беларускіх музыкантаў і акцёраў, вядзецца навуковая праца... Але ці варта пераказваць тое, пра што могуць расказаць самі дырэктар будучага музея Аляксандр МІХАЛЕНЯ і яго намеснік Арсеній ЛАБОВІЧ.

Аляксандр МІХАЛЕНЯ: Нам нялёгка працаваць, і прычын таму нямала: па-першае, у Беларусі яшчэ не было нават спроб абагульніць інфармацыю на гэту тэму, і за вопытам мы звярталіся да тэматычных цэнтраў былога СССР — музея імя Бахрушына ў Маскве, дзе нам дапамаглі стварыць канцэпцыю нашага музея, падтрымліваем з імі сувязь да гэтага часу. Пабывалі мы і ў Цэнтральным музеі музычнага мастацтва імя Глінкі, дзе доўгія гады збіралі матэрыялы па рэгіёнах былога СССР, у тым ліку і па Беларусі. Плануем пабываць у Польскай нацыянальнай бібліятэцы, але зараз арганізаваць такую камандзіроўку вельмі складана: патрэбна валюта і вырашэнне шматлікіх фармальнасцяў. Спадзяёмся, што лягчэй будзе вывучаць тыя матэрыялы, якія знаходзяцца ў Прыбалтыцы, там такія музеі існуюць ужо даўно, і я думаю, яны дапамогуць нам. Так ужо атрымалася, што звесткі па гісторыі беларускага тэатральнага і музычнага мастацтва раскіданы па ўсім свеце — іх можна знайсці ў музеях і бібліятэках Германіі, Чэхаславакіі, Балгарыі... А другая наша праблема — гэта тое, што вялікая колькасць каштоўных матэрыялаў згублена, вывезена за мяжу. І калі гэта твор выяўленчага мастацтва ці рэліквія, звязаная з імем вялікага артыста, аднавіць ці вярнуць яе ўжо вельмі цяжка ці наогул немагчыма. Хаця, дзякуючы намаганням аматараў тэатральнага мастацтва, нам удаецца нешта набываць. Так, мы змаглі знайсці і вярнуць многія матэрыялы, звязаныя з імем вядомага спевака і кампазітара Міхала Забэйды-Суміцкага. Я асабіста пабываў у Баранавіцкім раёне, сустрэўся з яго сваяком, які перадаў музею пояс Забэйды-Суміцкага. Ён быў вытканы чэхаславацкімі майстрамі, спявак доўга ім карыстаўся, а потым перадаў сваякам. Часам бывае і так: не ўдаецца нам атрымаць той ці іншы экспанат, але калі ўладальнік рэліквіі даведваецца, што гэтая рэч будзе прафесійна апрацавана, выстаўлена ды яшчэ і яго прозвішча, як дарыльшчыка, будзе ўпамянута, — чалавек адразу дае згоду.

— Калі вы плануеце адкрыць музей для наведвальнікаў?

— Мы спадзяёмся, што праз дватры гады ўпартай працы наш музей прыме першых гасцей. Нам вельмі дапамагаюць наблізіць гэты час беларускія навукоўцы, супрацоўнікі Акадэміі навук, педагогі інстытута культуры. Разам са стварэннем экспазіцыі мы вядзём і навуковую працу, напрыклад, па дамоўленасці з Дзяржаўным тэатрам оперы і балета ствараем картатэку, куды ўвойдуць усе матэрыялы, якія могуць расказаць аб яго гісторыі. Такім чынам, усе, хто прыйдзе ў наш музей, змогуць атрымаць тут патрэбную інфармацыю, і каштоўныя дакументы не згубяцца. Такія ж картатэкі мы будзем ствараць і па Рускаму тэатру, і па тэатру Янкі Купалы. Трэба ў рэшце рэшт арганізаваць цэнтр, дзе разам будзе сабрана ўся інфармацыя, што захавалася, аб беларускай музыцы і тэатры.

Арсеній ЛАБОВІЧ: Экспанаты, экспанаты... На жаль, мы заўсёды спазняемся, ідзём за падзеямі. Пра неабходнасць стварэння такога музея гаварылася ўжо даўно. Вось так і атрымалася, што сёння мы маем другарадныя матэрыялы, а пра першарадныя ці не ведаем, ці толькі можам марыць. Усе ведаюць, што ў Празе ёсць белы раяль Забэйды-Суміцкага. Думаю, вы згодзіцеся, што яго месца ў нашым музеі. Але як прывезці яго? Дзе ўзяць сродкі? На якім узроўні вырашаць гэтае пытанне? А вось зусім "свежы" прыклад: нядаўна супрацоўнікі музея пабывалі на кватэры Рыгора Шырмы. Нам вельмі б хацелася, каб гэтая кватэра стала філіялам нашага музея, але праблема ўпіраецца ў мноства фармальнасцей — а каму гэтая кватэра належыць, а як на гэта паглядзіць унук вялікага музыканта... Мы ж просім пакуль што кватэру нікому не аддаваць і даць нам два гады, каб мы маглі там папрацаваць, разабраць і сістэматызаваць усе матэрыялы, якіх там багата. Гэта і асабістыя рэчы, і перапіска з вядомымі кампазітарамі і дзеячамі мастацтва, вельмі цікавая бібліятэка, дакументы... Там ужо музей! Але, на жаль, гэтае пытанне пакуль што так і не вырашаецца.

— Па якіх прынцыпах будзе створана экспазіцыя музея?

— Я лічу, што ўсё трэба будаваць так, каб наведвальнік адразу мог зразумець, што вось менавіта гэта ў даным раздзеле — галоўнае. Напрыклад, у XVII—XVIII стагоддзях — гэта тэатр Радзівілаў. У магнатаў былі вялікія грошы, якія яны маглі дазволіць сабе ўкладваць у тэатры, выпісваць прафесійных балетмайстраў, музыкантаў, рэжысёраў з Расіі, Польшчы, Італіі. Усё гэта сведчыць, што беларуская культура ў тыя часы не замыкалася ў сваіх нацыянальных рамках, а развівалася пад уплывам сусветнай культуры. Мы ўжо даведаліся, што ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску ёсць экземпляр кнігі, дзе надрукавана п'еса Уршулі Радзівіл, зробім ксеракопіі... Акрамя вызначэння гэтых вузлавых момантаў, нам хацелася б "ажывіць"нашу экспазіцыю. Ідзе гаворка пра батлейку — значыць, батлейка павінна працаваць, граць, паказваць. А калі да нас прыйдзе дзіця, яму, канешне, захочацца пагуляць з лялькай, а можа, і забраць з сабой як сувенір. Для каго будзе прызначацца музей? Па-першае, для "чалавека з вуліцы", які можа нават выпадкова трапіць да нас. Па-другое, для навуковых супрацоўнікаў, якія змогуць тут атрымаць неабходную інфармацыю, карыстацца нашай картатэкай і запаснікамі. Трэці накірунак — музей для ўсіх, хто ўсур'ёз зацікавіцца беларускай музыкай і тэатрам. Мы спадзяёмся, што іх будзе нямала.

Шчыра кажучы, стварэнне новага музея — далёка не самая цікавая і захапляючая тэма для артыкула сёння. Дай Божа, каб тыя, што ўжо існуюць, не закрыліся. Ад старажытнага закліку-патрабавання "хлеба і відовішчаў" засталася толькі першая частка. Можа таму, што пасля беганіны па магазінах у пошуках хлеба надзённага сіл на відовішчы ўжо не застаецца, а можа таму, што ў паўсядзённай мітусні ад бясконцага паўтарэння сталі штампамі заклікі да адраджэння нацыянальнай самасвядомасці, гаснуць вочы і губляецца цікавасць да адвечнага і прыгожага... Але ж хочацца верыць, што калі-небудзь гэта скончыцца і тады мы зноў пацягнемся да сваіх культурных каштоўнасцей. І калі сёння не паклапаціцца пра лёс музеяў, калекцый і збораў, можа здарыцца, што будзе страчана, згублена, вывезена за мяжу так многа, што нам самім застануцца толькі рэшткі ўласнай культуры. І тады нам не дапамогуць ні сведчанні гісторыкаў, ні артыкулы і дысертацыі навукоўцаў, таму што інфармацыя, хай нават таленавіта і падрабязна выкладзеная на паперы, зафіксуе толькі факты і ніколі не зможа перадаць дэталі, паўтоны і водар часу.

І нягледзячы на тое, што гэты музей будзе прысвечаны музыцы і тэатру, хочацца верыць: гісторыя наша ў ім не будзе статычнай і мёртвай, і па тым, якім быў тэатр, унукі будуць меркаваць пра наш час, як мы сёння даведваемся, што было ў XVI—XVII стагоддзях, па тым, якім быў тэатр тады. Па сутнасці, з часу, калі Шэкспір заўважыў, што "свет — сцэна, дзе ў кожнага ёсць роля", не так ужо многа і змянілася..

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



## МАЙСТРЫ

**"Покліч зямлі" — так названы новы габелен, выраблены калектывам Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва. Аўтар яго — мастачка А.Пілюзіна. Ён прызначаны для Палаца рэспублікі, што будуецца на Кастрычніцкай плошчы Мінска. Цяпер на камбінаце заняты вырабам яшчэ цэлай серыі тканых палотнаў для новага Палаца рэспублікі. Вырабы барысаўскіх майстрых шырока вядомы ў нашай рэспубліцы і за яе межамі. Іх рукамі створаны высокамастацкія габелены для многіх грамадскіх будынкаў.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны мастак камбіната Уладзімір МАКАРАУ абмяркоўвае вынікі работы з габеленшчыцамі Алай ФЯДЗІСАВАЙ (злева) і Аленай АЛЯХНО.**

**Фота Я.КАЗЮЛІ.**

### ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

# ПАЧУЦЦЁ МАЛОЙ РАДЗІМЫ

У беларусаў ёсць добрыя і працавітыя суседзі — украінскія сябры. Яны і да мовы беражліва ставіліся ва ўсе часы. Яны і прыкладам для нас былі ў стварэнні нацыянальнай энцыклапедыі. Ва ўкраінскіх сяброў яшчэ адна добрая справа робіцца — напісанне гісторыі населеных пунктаў. Мы ж яшчэ ў гэтым клопаце бы кацяняты-немаўляты...

Ды, праўда, не ўсё так дрэнна. Прыляцелі ў апошнія гады і першыя кніжкі-ластаўкі, вось і сёлета выдавецтва "Полымя" падаравала чытачу цудоўны гістарычна-краязнаўчы нарыс Паўла Стасевіча "Вёска над Ясельдай". У сотню кніжных старонак умясцілася даўняя і сучасная гісторыя вёскі Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Слушнай заўвагай гучаць у аўтарскай прадмове да кнігі словы вядомага вучонага Міколы Улашчыка: "... аб'ектам даследавання мае права быць кожны населены пункт, і вельмі шкада, што гісторыі вёсак і невялікіх паселішчаў наогул у нас няма. Шкада, бо без вывучэння гісторыі гарадоў, вёсак, хутароў немагчыма і глыбокае веданне гісторыі краіны". І след, відаць, заначыць, што Мікола Улашчык стварыў выдатны ўзор апісання вёскі — "Была такая вёска" — на прыкладзе роднай сваёй Віцкаўшчыны. Гэтую своеасаблівую энцыклапедыю жыцця беларускага селяніна пераклаў на беларускую мову Уладзімір Арлоў. Спярша праца Улашчыка друкавалася ў часопісе "Полымя", а пазней выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" асобнай кніжкай.

Моталю ўжо болей за 500 гадоў. Зараз гэта адна з самых населеных вёсак Беларусі — каля шасці тысяч чалавек. Славіцца Моталь сваімі ручнікамі, кажухамі, вышыўкамі. У вёсцы створаны музей народнай творчасці. Ёсць у Моталі адзін з нямногіх на Беларусі — музей хлеба. Бы ў люстэрку, у гісторыі вёскі — мінулае і сучаснае Палескага краю.

Аўтар гістарычна-краязнаўчага нарыса ўважліва зазірае ў сівую даўніну. Даследчык адкрывае чытачу многія найцікавейшыя перыпетыі ўчарашняга дня. Падаецца і першае ўспамінанне пра Моталь у дакументальных крыніцах. Датай заснавання вёскі лічыцца 1422 год. "Біяграфія" Моталя, зразумела, пераклікаецца з гісторыяй усяе Беларусі. Адпаведна ўзніклі ў нарысе і раздзелы: "Пад уладай князёў", "Магдэбургскае права", "Не панскім загадам, а сваім розумам", "Паўстанні, войны, падзелы", "Напалеонаўская навала" і гэтак далей. Тыраж кніжкі пра Моталь — адзінаццаць тысяч экземпляраў. Думаецца, што кнігу заўважаць усе цікаўныя краязнаўцы. Таму не толькі пра змест яе хацелася б пагаварыць.

Так, Моталю пашчасціла. Усё ж вялікая вёска, захавалася шмат архіўных крыніц мінуўшчыны. Засталася з XIX стагоддзя нават праца даследчыцы Марыі Саковіч — "Сяляне мястэчка Моталь і іх песні". Ды ўсё ж заўважце, што мы не маем добрых кніг нават пра некаторыя гарады. А пра асобныя раённыя цэнтры нават і па сённяшні дзень не напісаны райкомамі партыі зацверджаныя "гісторыка-эканамічныя нарысы". Таму і пашана Паўлу Стасевічу за зробленае: пра вёску Моталь кніжка ёсць, застанецца і для цікаўных нашчадкаў! Нарыс "Вёска над Ясельдай" — гэта ўзор, прыклад росшукаў для астатніх.

Цяпер пра некаторыя заўвагі, тое, што кідаецца ў вочы з першага прачытання. Вельмі сціпла дакрануўся аўтар да рэлігійнага аспекту гісторыі. Хараство мотальскай царквы, пабудаванай у 1877 годзе, уражвае і цяпер. Чаму б да фотаздымка не дадаць было падрабязнага расказу і пра сучасны будынак царквы, і пра тое, якія ў ёй месцяцца скарбы. Тым больш, што гістарычная інфармацыя на гэтую тэму якраз захавалася.

Доўгія часы нашу гістарычную свядомасць стараліся абараніць ад так званага польскага колеру... Памылкі выпраўлены часткова, працягваюць выпраўляцца зараз. Яшчэ адзін колер, каторы іншым афіцыяльным летапісцам не даспадобы, — яўрэі на Беларусі. Вось і ў Моталі ў 1871 годзе працавала больш дзесяці яўрэйскіх крам. Нарадзіўся ў мястэчку і першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман. У нарысе аб гэтым — толькі кароценькія звесткі. Ці ж справядліва?.. І вось што яшчэ. Апошнім часам у папулярных краязнаўчых кніжках падаецца бібліяграфія. Зроблена гэта і на заваршэнне нарыса пра Моталь. Спіс кніг-згадак пра вёску невялікі. Ды і то ж у іх — толькі нямногія старонкі кніг распавядаюць пра Моталь. Але для цікаўных людзей і гэтыя падказкі — важкія кропкі ў набыцці пачатковай інфармацыі. Думаецца, што дарэмна не пададзена бібліяграфія газетных і часопісных публікацый пра Моталь.

І ўсё ж па-добраму зайздрошчу матылянам, бо маюць кніжку пра вёску сваю. А чаму б не быць такому ж нарысу пра Дукору, што каля Пухавічаў. Тым болей, што гэтай вёсачцы прысвечаны творы і пісьменнікаў — Васіля Гарбацэвіча, Валянціна Мысліўца і многіх журналістаў... А Ракаў, Івянец... Краязнаўца Мар'ян Віж напісаў цікавыя нарысы пра іх у сваім зборніку "Чары даўніны", выдадзеным некалі "Голасам Радзімы". То можа вырастуць з гэтых публікацый і асобныя кніжкі, а наш беларускі летапіс вёсак у недалёкай будучыні паўстане ёмістым зборам асобных выданняў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

**14 СТУДЗЕНЯ, ЧАЦВЕР**

# СТАГОДДЗЕ МІНСКАЙ ГУБЕРНІ

**Сто гадоў таму выйшла ў Менску (тады Мінску) дадаткам да "Памятнай кніжкі Мінскай губерні на 1893 год" гісторыка-статыстычная нататка "Стагоддзе Мінскай губерні, 1793—1893" за аўтарствам сакратара Мінскага губернскага статыстычнага камітэта А.Смародскага.**

**Гэта значыць, што сёлета споўнілася дзвесце гадоў "воссоединения Минской губернии с Российскою империею". Юбілей. Але юбілей, які мы святкаваць не будзем: нічога добрага ад імперыі Беларусь, пераўтвораная ў рэшце рэшт у Паўночна-Заходні край, не атрымала. Ды і сама тэза пра "ўз'яднанне" нават па форме сафістычная. Бо нельга ж уз'яднаць тое, што раней проста не існавала. (У часы так званай старажытнарускай дзяржаўнасці было Полацкае княства, але не Мінская губерня і Кіеўскае княства, а не Расійская імперыя).**

**І ўсё ж гэта наша гісторыя, добрая яна ці дрэнная, найперш — гісторыя. Сучасны чытач знойдзе ў даным рарытэце шмат цікавых фактаў. Змешчаны ў ім гістарычны нарыс земляў Мінскай губерні; урадавыя распараджэнні датычна падзелаў Польшчы; даныя пра склад і ўладжванне губерні; статыстыка яе развіцця за стагоддзе; спіс генерал-губернатараў, грамадзянскіх губернатараў, архірэяў, губернскіх прадвадзіцеляў дваранства і да т.п.**

**Даведаемся мы, чаму і калі палякі прапаноўвалі сваю карону царам Фёдару Іаанавічу, Міхаілу Фёдаравічу, Аляксею Міхайлавічу, што ў 1860 годзе быў наступны склад хрысціянскага насельніцтва губерні: 310 373 — уніяты, 262 024 — праваслаўныя, 199 597 — каталікі, што было тады ў Мінску 4 суконныя фабрыкі, 2 медныя, 3 інструментальныя**




**заводы і ажно 442 бровары. З імянных указаў Імператрыцы і Самадзержыцы Усерасійскай Кацярыны ІІ даведваемся пра загад набіраць канцылярскіх служачых з маларасійскіх, Тульскай і Калужскай губерняў (пачатак русіфікацыйнай палітыкі), пра нагляд за піярскімі кляштарнымі школамі і вучэльнямі з прычыны "вредного их учения, основанного на буйственных началах новейшего французского суемудрия", пра ўкамплектаванне егерскіх карпусоў з прызначэннем дваццацігадовага тэрміну службы мяшчанамі і сялянамі, казённымі ды абшарніцкімі, Мінскай губерні і да т.п.**

**Валеры ГЕРАСІМАЎ.**

---

Ігар ЖАЛЯЗОЎСКІ:

# НЯХАЙ АБЫХОДЗЯЦЬ НЯЎДАЧЫ

*Часам вельмі не шанцуе. На экзаменах, бывае, круглы выдатнік нечакана, нібыта ў кашмарным сне, завальвае любімы прадмет. Але каб двойчы запар! Яўным фаварытам адпраўляўся на Алімпіяды ў Калгары і Альбервіль Ігар Жалязоўскі. Вярнуўся — першы раз з адзіным бронзавым медалём, праз чатыры гады — зусім ні з чым. Але новая зіма, новыя надзеі, і зноў пайшлі канвеерам паведамленні аб перамогах мінчаніна на этапах Кубка свету.*

*Напярэдадні Новага года спартыўны журналіст В.ПІСАРАЎ узяў інтэрв'ю ў шматразовага чэмпіёна свету, якое мы даём у скарачэнні.*

**— Ігар, калі б прывёз з Альбервіля залаты медаль — гэта была б лебядзіная песня?**

— Магчыма. У ранейшыя часы я, так сказаць, не зведваў душэўнага хвалявання перад Алімпійскімі гульнямі, нават у дзяцінстве мне больш падабалася, як гучыць "першынство Савецкага Саюза". Вось, напэўна, што хацеў, тое і атрымаў. Адзіныя спаборніцтвы, дзе мне так і не ўсміхнулася фартуна. Як быццам пакаранне.

Але, павінен прызнацца, менавіта цяпер, з сённяшняга дня, стаўлю ўсё на карту, каб не схібіць у Ліпехамеры. Астатнія старты не так важныя, нават Кубак свету, галоўнае — Гульні.

**— Ты лічыш сябе няўдачнікам?**

— Ні ў якім разе. Ну не пашанцавала з Алімпіядамі, што зробіш, значыць, лёс такі.

**— Выходзіць, справа толькі ў лёсе?**

— Не, у першую чаргу вінаваты, вядома, сам. Калі ў чалавека нешта не атрымліваецца, спаганяць трэба з сябе. Хаця і аб'ектыўныя акалічнасці не скінеш з рахункаў.

**— Гавораць, у цябе праблемы з канькамі?**

— Сапраўды, засталіся апошнія бегавыя. Як заўсёды, усё ўпіраецца ў валюту. Абяцае дапамагчы Дзяржкамспорт рэспублікі, але там цяжкасці з артыкулам расходаў, па якому можна рабіць аплату. А ў прадстаўніка японскай фірмы, чыімі канькамі я карыстаюся (яны прысутнічалі на спаборніцтвах з маім удзелам), з сабой, на жаль, нічога не было. Праўда, зрабілі злепак з нагі, так што, спадзяюся, гэта часовыя цяжкасці.

**— Яшчэ параўнаўча нядаўна табе не даводзілася задумвацца, дзе і з кім трэніравацца. Зборнай СССР больш няма, у Беларусі ўмовы не дазваляюць. Як рыхтуешся цяпер?**

— Гэты год, на шчасце, практычна не адрозніваўся ад папярэдніх. Лета я правёў на базе ў Раўбічах, а пачынаючы з верасня, падключыўся да расійскай каманды. І трэнер пакуль застаўся той жа — Валерый Муратаў.

**— А скосых позіркаў не заўважаў, маўляў, што гэты чужак тут робіць?**

— З Муратава цяпер будуць спаганяць у першую чаргу за медалі для расійскага спорту. З другога боку, у нас даўнія добрыя адносіны з ім, з хлопцамі. І потым, я па-ранейшаму лідэр, і, напэўна, спартсменам знойдзецца чаму ў мяне павучыцца. Думаю, яны таксама не ў пройгрышы.

**— Першыя этапы Кубка свету прыносілі поспех у асноўным табе і амерыканцу Джэнсэну. Куды падзеліся астатнія супернікі?**

— У асноўным выступалі практычна ўсе мацнейшыя, ну хіба Йенс-Уве Май пасля Алімпіяды зачахліў канькі, а так склад практычна не змяніўся. Шчыра кажучы, сам не чакаў, што ў мяне так гладка ўсё пройдзе. Часткова і пашанцавала: я выйграў усе чатыры этапы на "тысячы", тры з іх — з мінімальным адрывам у 0,02, 0,03 і 0,05 секунды.

У Японіі беглася больш цяжка. У Карэі ўжо было лягчэй, патрохі набіраю форму.

**— Калі перамогі ідуць касяком, ці не прытупляецца вастрыня ўспрыняцця?**

— Ёсць крыху.

**— Тады які інтарэс бясконца стартаваць у гэтых самых этапах? Стымулы?**

— Прызы і кубкі, і міжнародная федэрацыя дае нядрэнныя прэміі за кожную перамогу. Зноў жа прыемна, што цябе ведаюць і паважаюць, асабліва за рубяжом.

**— Чаго табе хацелася б ад жыцця, хаця б у бліжэйшы час?**

— Каб усе былі жывыя і здаровыя — родныя, блізкія. І каб няўдачы абыходзілі нас.

---

## ЗІМОВЫЯ ЭЦЮДЫ







**Фота В. ВАСІЛЬЕВА.**

---

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 29. Падпісана да друку 12.01.1993 г.